ЛІТАРАТУРА
І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

2 студзеня 1998 г. № 1/3929 Кошт 4 000 руб.






На белым снезе белая дарога,
Ісці па ёй — не ўспамінаць благога,
Бо гэтая дарога, як дахаты...

А год прайшоў і новы год пачаты...
На белым снезе белая дарога.
Ісці па ёй, нібы ісці да Бога...

*Фота А. КЛЕШЧУКА*

СУСТРЭЧЫ

# Нацыянальная культура знойдзе падтрымку

Напярэдадні Новага года, 29 снежня, адбылася сустрэча Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкі з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі. Прэзідэнт на сустрэчы прадстаўляў Прэзідэнта, адказнага за дзяржаву носьбіта ўлады. Прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі ў пераважнай колькасці прадстаўлялі тое, што кожны сам па сабе прадстаўляе.

Прэзідэнт павіншаваў прысутных з надыходзячымі святамі, выказаў падзяку за працу. Разам з тым Прэзідэнту, як даволі хутка стала зразумела з яго нагага ўступнага слова і наступных заўваг і каментарыяў амаль да кожнага выступлення, хацелася б ад прысутных здабытку значна большага за той, які ёсць і значыцца сёння ў іх творчых дасягненнях: лепшых кніг, лепшай музыкі, лепшых фільмаў... Пажаданням гэткім, зразумела, ні ў чым не запярэчыш, бо ў культурным жыцці краіны сапраўды назіраецца працяглы зацішак. Прысутным тым не менш справядліва хацелася б большага за ўжо дасягнутае і за тое, чаго мяркуецца дасягнуць: матэрыяльнага боку існавання культуры кранаўся кожны з тых, хто браў слова.

Прэзідэнт з разуменнем паставіўся да гэтай праблемы і падкрэсліў, што эканамічнае і палітычнае становішча ў краіне стабілізавалася, таму сёння ў дзяржавы ёсць магчымасць надаць прыярытэтную ўвагу развіццю нацыянальнай культуры, на распрацоўку праграмы якой выдзелены ўжо істотныя сродкі. Дзяржава будзе падымаць статус творчых людзей, клапаціцца пра тое, каб сапраўдны талент атрымліваў належнае ўзнагароджанне за сваю працу. Мяркуецца для такіх асоб стварыць Прэзідэнцкія гранты. Будзе заснаваны і спецыяльны фонд па падтрымцы культуры і мастацтва. Для гэтага дадаткова да бюджэтных сродкаў выдзелена 60 мільярдаў рублёў, людзям мастацтва не спатрэбіцца шукаць для сваіх праектаў спонсараў сярод прыватных фірм. Толькі б зробленае імі мела вартаснасць, якасць, бо пакуль што не заўсёды дзяржаўныя сродкі трацяцца плённа.

Асаблівую і цалкам слушную занепакоенасць выклікае ў Прэзідэнта тое, што не надаецца належнай увагі выхаванню творчай змены, якая ўвайшла б у нашу культуру услед за вядомымі майстрамі. Забеспячэнне культурнай прасторы творчай зменай — доўг і абавязак майстроў, без гэтага яны міжволі становяцца майстрамі "былымі", як бы ні было ім крыўдна і горка тое ўсведамляць. Прэзідэнт заклікаў быць цярпімымі адзін да аднаго, месца пад сонцам творчасці хопіць для ўсіх.

Гаворачы пра журналістыку і друк, Прэзідэнт крытычна згадаў чамусьці толькі адзінае выданне: газету "Літаратура і мастацтва". З яго ных слоў вынікала, што пазіцыя газеты не адпавядае яе задачам, што яна ледзьве не цалкам супярэчыць абранаму курсу краіны, не ўпісваецца ў яго ны накірунак. Як выснова з гэтага меркавання — хай сабе тады "ЛіМ" фінансуецца з тых жа крыніц, што і ўся апазіцыйная прэса, а не са сродкаў дзяржбюджэту.

Што ж, з гары яно, як кажуць, відней, асабліва ў тых выпадках, калі ў час падбягуць і раз-другі настойліва падкажуць, куды і праз якое шкельца глядзець. У "ЛіМа" на сённяшні дзень, бясспрэчна, дастаткова недахопаў, абумоўленых як творчым, так і тэхнічным забеспячэннем рэдакцыі (няма, напрыклад, ні дыктафонаў, ні хоць бы аднаго фотаапарата), але асноўнай пазіцыяй газета адпавядае сваім задачам і, як здольна на сённяшні дзень, гэтыя задачы вырашае. Пазіцыя газеты заключаецца ў адстойванні прыярытэтаў нацыянальнай мовы, культуры, духоўнасці перад усім і прад усімі, у тым ліку і перад уладнымі структурамі да самага іх верху, калі прыярытэты гэтыя падвяргаюцца альбо нападкам, альбо рэвізіі ва ўгоду часовым меркаванням і палітычнай кан'юнктуры. Калі ж пазіцыя газеты будзе іншай, тады і размова будзе пра газету іншую, якой каму яна бачыцца.

Выказаўся Прэзідэнт і яшчэ па некалькіх асобных праблемах, сказаў пра адраджэнне кінапракату, які апошнія гады зусім заняпаў; пра структуры творчых саюзаў і створаную імі канфедэрацыю, у якую не ўвайшоў пакуль Саюз беларускіх пісьменнікаў, пра рэформу Беларускага тэлебачання. Дарэчы, Прэзідэнт запэўніў, што тэлебачанне ніколі не будзе аддадзена ў прыватныя рукі, а застанецца дзяржаўным, каб належаць усёй нацыянальнай творчай эліце. Неадназначна ўспрымае Прэзідэнт прапанаваную яму праграму манументальнай прапаганды, бо, на яго думку, калі грамадскі, палітычны дзеяч сапраўды варты памяці, ён застанецца ў памяці народа і без пампезных манументаў.

Сустрэча Прэзідэнта з дзеячамі культуры будзе мець свой працяг. 7 студзеня, у дзень праваслаўных Каляд, у тэатры оперы і балета адбудзецца ўрачыстае мерапрыемства з удзелам свецкай і духоўнай уладаў, дзе лепшыя прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі атрымаюць заслужаныя ўзнагароды.

*Жывем мы — у Доме адным,*
*Таму з Новым годам вітаю*
*І тых, хто чытае наш "ЛіМ",*
*І тых, хто яго не чытае.*

**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

СВЯТЫ

# Гучыць на ўсю краіну!

І не толькі на Беларусі — за межамі краіны можна пачуць гэты калектыў ды галасы яго ных салістаў. Калі, вядома, рэгулярна слухаць радыё. Таму што менавіта слухачы эфіру — галоўная (і неабсяжная) аўдыторыя Інструментальнага ансамбля Белтэлерадыёкампаніі. Нядаўна ў Дзяржаўным маладзёжным тэатры эстрады адбыўся канцэрт гэтага калектыву, прымеркаваны да 65-годдзя з дня яго нага заснавання.

Падчас вечарыны згадваліся імёны Сямёнава, Жыхарава ды Смялкоўскага, Халшчанкова ды Валасюка — музыкантаў розных пакаленняў, колішніх кіраўнікоў ансамбля, на чале якога сёння Аляксандр Арабей. Гаварылася пра шырокі размаіты рэпертуар. Вядомы ў музыканцкім асяроддзі "КІА" (камерна-інструментальны ансамбль) яшчэ і лідзіруе па колькасці запісаў, зробленых у радыёстудыі. Тут і экзатычныя рэгтаймы, і апрацоўкі жартоўных найгрышаў, і лірычны "Вальс" Глазунова, і полечка беларуская...А колькі твораў, выкананых у чуйным партнёрстве з салістамі!

У той вечар імі былі спявачкі Ніна Кавалёва, заслужаная артыстка Беларусі Ганна Радзько, Алена Рамашкевіч, маладая цымбалістка, лаўрэат міжнароднага конкурсу Вераніка Дабрыніна... Зрэшты, што ды як было ў той урачысты вечар, дазнаецца нават той, хто не патрапіў на канцэрт. Бо тэлебачанне ўсё спраўна запісала і неўзабаве прэзентуе гледачам.

А на лімаўскіх здымках таксама засталіся імгненні імпрэзы: Інструментальны ансамбль Белтэлерадыё; вядомая выканаўца нашых народных песень Ніна КАВАЛЁВА.

**С. Б.**

*Фота А. МАЦЮША*





ФЕСТЫВАЛІ

# Калядуе "Sonorus"

Гарадскія ўлады, мінскі касцёл святых Сымона і Алены (Чырвоны), духоўны тэатр "Анёл" наладзілі Калядны харавы фэст. Штодня паміж каталіцкімі набажэнствамі праходзілі адкрытыя святочныя канцэрты з удзелам пеўчых калектываў сталічных школ, хору Беларускага дзяржаўнага універсітэта, знанага "Сонейка". Адкрыць серыю фестывальных выступленняў запрасілі прафесійны калектыў — Мінскі абласны камерны хор і аркестр "Sonorus" пад кіраўніцтвам А. Шута, які штогод дае канцэрты ў Чырвоным касцёле.

"На свята Божага нараджэння ў беларускім касцёле павінна гучаць беларуская музыка", — зазначыў маэстра, і 25 снежня артысты выканалі тут сапраўды арыгінальную святочную праграму. Гучала "Нясвіжская імша" А. Залётнева, створаная паводле старадаўніх нотных рукапісаў нашага земляка Шымкевіча. Гучала кантата А. Літвіноўскага "Да Маці Божай" на тэксты з малітоўніка кс. А. Станкевіча.

Праз дзень гэты ж рэпертуар выконваўся ў Докшыцах: шматлікія слухачы сышліся ў мясцовы касцёл, каб падзівіцца на цуд мастацтва. Сапраўдны прафесійны хор, жывы аркестр, незнаёмая, прыгожая і такая зразумелая музыка!

"Sonorus" працягвае калядаваць. Па запрашэнні Магілёўскай абласной філармоніі хор і аркестр пад кіраўніцтвам А. Шута 8 студзеня адкрые сваёй беларускай праграмай тамтэйшы калядны музычны фестываль. А назаўтра дасць канцэрт у Бабруйску. Потым трэба ўключацца ў свецкае жыццё: "Sonorus" удзельнічае ў канцэртнай праграме чарговага з'езда беларускіх кампазітараў, рыхтуе да выканання шэраг новых і ўжо знаных харавых партытур.

**С. Б.**

РЭПЛІКА

# Вольны верш у ценю хвой

У адным з маскоўскіх выдавецтваў выйшла кніга перакладаў "Современный белорусский верлибр". Падзея, дарэчы, вельмі знамянальная: упершыню за апошнія пяць гадоў расійскія літаратурныя колы звярнулі-ткі ўвагу на гаротную Беларусь, больш таго — "снизошли" да перакладу яе сціплых літаратурных набыткаў. Але ліць слёзы ўдзячнасці і замілавання з гэтае нагоды наўрад ці варта. З такой думкай пагодзіцца кожны, хто чытаў або проста бачыў згаданае выданне. Якое ўражанне пра багацце і разнастайнасць беларускай літаратуры можа скласціся пасля азнаямлення з кнігай аб'ёмам 24 старонкі, надрукаванай на паперы шэра-блакітнага колеру? Адзіная выснова, якую можна зрабіць, — беларуская паэзія знаходзіцца на першапачатковай стадыі развіцця. А, можа, і ў стане комы. Графічныя працы Наталлі Чарных, якімі аздоблена выданне, узмацняюць яго і без таго "непаўторны каларыт". Асабліва выява на вокладцы: маленькая крывабокая хатка з саламянай страхой і нахіленым комінам, якая хаваецца ў ценю вялікіх хвой (напэўна, такім чынам выдаўцы хацелі адлюстраваць сваё ўяўленні пра Беларусь).

Гэта ўсё тычылася формы. Што ж можна сказаць пра змест? Адкрываецца кніга невялікай, але вельмі цікавай і пазнавальнай анатацыяй, якая вартая таго, каб быць працытаванай цалкам: "Свабодны верш — з'ява ў беларускай літаратуры маладая, і не дзіўна, што звяртаюцца да яго, у першую чаргу, аўтары малодшых пакаленняў — перш за ўсё тыя, хто ўваходзіць у кола "Таварыства вольных літаратараў". Як бачна, складальнікі адным махам выкраслілі з нашай літаратуры і М. Багдановіча з яго крытычнымі артыкуламі, і М. Танка з каласальнымі распрацоўкамі ў галіне беларускага верлібра. Тым жа махам А. Разанаў быў пераведзены ў разрад пачынаючых і залічаны да "Таварыства вольных літаратараў".

Верлібр сам па сабе з'ява вельмі спецыфічная, якая мае значныя адрозненні ад іншых вершаваных формаў і выстаўляе дадатковыя патрабаванні пры перакладзе. Справа ў тым, што меладычны малюнак свабоднага верша, яго паэтычнасць ствараецца пры дапамозе своеасаблівага ўнутранага рытму і гукавых спалучэнняў, без рыфмы і ўпарадкаванага чаргавання націскных і ненаціскных складоў. Таму з чыста фармальнага пункту гледжання верлібр перакладаць лягчэй (не трэба прытрымлівацца метрычных і рыфмаваных канонаў), але гэта вельмі часта з'яўляецца раўназначным яго знішчэнню. Верш знікае. Застаецца змест. Перакладчык Д. Кузьмін улічыў гэта — пасвойму. Складаецца такое ўражанне, што з творчых набыткаў А. Разанава, Л. Сільновай, С. Мінскевіча, Е. Мазько, Л. Сом, Зм. Вішнёва, чые творы ўвайшлі ў зборнік, ён браў, што паменей і папрасцей, а гэта пэўным чынам адлюстравалася на агульнай зададзенасці кнігі, яе ўзроўні.

Супярэчлівыя пачуцці застаюцца пасля гэтага зборніка. З аднаго боку — нельга не ацаніць добрую волю выдавецтва "Аргориск" і асабіста сп. Д. Белякова, на чые сродкі ўсё было зроблена, але з другога... Проста крыўдна, што выдаюцца кнігі, пасля чытання якіх можа падацца, што Беларусь — глухая вёска дзе-небудзь у сібірскай тайзе, а не край з тысячагадовай культурай. Хочацца спадзявацца, што робіцца гэта ненаўмысна.

**Андрэй СКУРКО**

ЮБІЛЕІ

# Дух Адраджэння

Здаецца, зусім нядаўна ў Доме літаратара адзначаўся выхад сотага нумара часопіса "Роднае слова", а студзеньскі за сёлетні год пазначаны ўжо як 121-ы. Вядома, зусім не гэта з'яўляецца падставай яшчэ адзін раз згадаць добрым словам выданне, якое даўно стала сваім для аматараў беларушчыны, прыхільнікаў нацыянальнага Адраджэння, а не толькі для настаўнікаў, выкладчыкаў сярэдніх школ, на каго "РС" у першую чаргу разлічана і, як вядома, першыя сорак восем нумароў якога выходзілі пад назвай "Беларуская мова і літаратура ў школе". Ёсць прычына іншая, больш важная: у студзені спаўняецца дзесяць гадоў з дня выхаду першага нумара часопіса.

Дзесяць гадоў для выдання падобнага профілю — нямала. Асабліва, калі прыняць пад увагу той факт, што за гэты час у жыцці нашага грамадства шмат што змянілася. І часопіс, зразумела, мусіў адпаведным чынам рэагаваць на ўсе змены. І, канечне ж, рэагаваў.

Але галоўнае, што ўзнік ён на першай хвалі нацыянальнага Адраджэння і што зерне з самага пачатку ў рэдакцыйныя засекі засыпалася адборнае, можна сказаць, элітнае, якое давала дружныя ўсходы. Ужо ў нумары-першынцы з'явіліся матэрыялы, якія і сёння не страцілі сваёй вартасці і значнасці. Найперш гэта публікацыі, прысвечаныя 150-годдзю з дня нараджэння Кастуся Каліноўскага. Дарэчы, з першага нумара і намецйўся гэты накірунак "РС" — асэнсоўваць не толькі з'явы літаратуры, а і культуры, мастацтва ўвогуле. А яшчэ — рабіць усё магчымае, каб на гэтай ніве менела "белых плям".

Канечне, з цягам часу асобныя рубрыкі зніклі, з'явіліся новыя. Але нязменным быў, ёсць і застаецца дух "Роднага слова". І ў гэтым лёгка ўпэўніцца, разгарнуўшы кожны яго нумар. Абавязкова ўбачыш нешта цікавае ў раздзелах "Філалогія", "Культура Беларусі", "На ростанях". Абавязкова спаткаеш адкрыццё чагосьці новага ў рубрыках "Анталогія беларускага рамана", "Літаратурны вятраль"...

"Роднае слова", хоць гэта і навукова-метадычны часопіс, трэба чытаць літаральна ўвесь — ад першай да апошняй старонкі — бо нават розныя метадычныя распрацоўкі, якія маюць сваю спецыфічнасць, у ім не адштурхоўваюць. Яны таксама дазваляюць глыбей пранікнуць у свет творчасці пэўных пісьменнікаў, лепш зразумець іх асобныя творы ці, зноў жа, далучыцца да нацыянальных культурных набыткаў у цэлым.

З гадамі абнавіўся рэдакцыйны калектыў часопіса, прыйшлі ў яго новыя людзі — маладыя, энергічныя. Але на чале калектыву застаецца адзін і той жа чалавек: з дня заснавання "РС" яго галоўным рэдактарам з'яўляецца Міхась Шавыркін. Менавіта дзякуючы яму часопіс і стаў такім, якім ёсць. А якім ён ёсць, лёгка ўпэўніцца, разгарнуўшы яго свежы нумар.

**Наталля ФЯДОТАВА**

ВЫСТАВЫ

# Плынь часу

У Галерэі сучаснага мастацтва "Шостая лінія" экспануецца выстава графікі польскай мастачкі Гражыны Гурскай "Плынь часу". Арганізаваў гэтую выставу Польскі інстытут у Мінску. Мастачка скончыла Вышэйшую школу прыгожых мастацтваў у Гданьску, зараз працуе ілюстратарам. Сёлета брала ўдзел у Міжнародным Шагалаўскім пленэры ў Віцебску. Магчыма, гэтая акалічнасць і паўплывала на тое, што зараз творы Гурскай экспануюцца ў Мінску.

У іх мастачка скарыстоўвае нетрадыцыйныя для графіка (у нашым разуменні) выяўленчыя сродкі. І досыць цяжка вызначыць, ці гэта стыхійны пошук, ці эстэтычная канцэпцыя; ці гэта эскіз, ці закончаны твор.

Гэта выстава — першая акцыя, якую ў Мінску праводзіць новы дырэктар Польскага інстытута Томаш Нягодзіш. У студзені будзе выстава "тэйп-арта" А. Віснеўскага, у лютым — "Польская картаграфія", у сакавіку — фотавыстава. У Томаша Нягодзіша, наколькі я разумею, ёсць жаданне аднавіць польска-беларускія кантакты ў галіне культуры хаця б на тым узроўні, які быў да развалу СССР і паразы камунізму ў Польшчы. Задача даволі складаная, калі ўлічыць, што палякі крыху спазніліся. Час, калі Польшча была для нас вакном на Захад, адышоў у нябыт. За некалькі гадоў незалежнасці Захад сам прыйшоў у Беларусь. Я маю на ўвазе культурніцкія акцыі, якія ладзяць у нашай краіне Германія, Францыя, Італія, Брытанія (асабліва я адзначыў бы нямецкі культурны цэнтр імя Гётэ).

Сёння Польскаму інстытуту ў Мінску давядзецца працаваць ва ўмовах канкурэнцыі. Аднак беларуска-польскае супрацоўніцтва ў культурнай галіне, безумоўна, мае перспектывы. Бо стагоддзі агульнай гісторыі ў агульнай дзяржаве — Рэчы Паспалітай — не забыліся, не забудуцца.

**Н.Ф.**

*НОВЫ ГОД — СВЯТА СЯМЕЙНАЕ*

# З жыцця Дзядоў Марозаў і Снягурак

Ці не для кожнага артыста Новы год азначае... вялікае пераапрананне. Апошні час і ў калядныя строі, у калядныя маскі; але найперш — у Дзеда Мароза й Снягурку. Пасля вялікага маскараду па садках, школах, уласных тэатрах і яшчэ па шмат якіх мясцінах раней адзначалі трынаццатае студзеня — Стары новы год, акцёрскі, як вялікае збавенне ад вакацыйных спектакляў, ажно трох на дзень. Цяпер па-рознаму...

Свой насампершы сапраўдны сямейны Новы год Зоя Белахвосцік і Аляксандр Гарцуеў, знаныя купалаўскія акцёры, памятаюць снежным-снежным. Такім, што малады муж ад радасці кінуўся ляпіць снежных баб, а маладая жонка потым іх... маляваць. Не размалёўваць, а маляваць. Акварэллю. Тая, на якую начапілі вяночак з галля, так і засталася напамінам пра снежнае шчасце трынаццацігадовай даўніны...

Валя Гарцуева, таксама купалаўка (купалаўка наймяншая, бо выходзіла ўжо на сцэну ў спектаклях), памятае сябе на Новы год Сняжынкай і Снягуркай (як мама). У дзіцячым садку было на ранішніку: Валя расказвала верш пра Дзеда Мароза, у якога вочы татавы, і ўважліва разглядала садковага Дзеда Мароза. "І ведаеш, мама, у яго вочы былі напраўду татавы, шэрыя, вясёлыя," — дзялілася дома. Тата тым часам ліхаманкава змываў з сябе рэшту грыму: дочухну не падманеш, дзе не ўбачыла, там адчула. Адчула, што вершык і праўда жыцця раптоўна супалі на адным, асобна ўзятым ранішніку...

Такіх Дзядоў Марозаў Гарцуеў пераіграў тузін і паўтузіна. Як Белахвосцік — сваіх Снягурак. Так і даігралася: два гады ўжо не бярэ ўдзелу ні ў якіх казках. На сцэне. Затое летась на Новы год ладзілі з дачкой лялечны тэатр. Самі шылі, самі размалёўвалі, ватай напіхвалі, ролі для ватовых стварэнняў пісалі. І распісвалі заднікі, якія раз-пораз мяняліся ў лялечным спектаклі хатняга тэатра. Радзіна была ў захапленні. З таго часу навагодняе лялечнае прадстаўленне ў сям'і Белахвосцікаў-Гарцуевых паменавана мастацкай сама дзейнасцю сям'і купалаўскага тэатра...



Зоі Белахвосцік, якая якраз напярэдадні каталіцкага Нараджэння Хрыстова збівала тэмпературу і лекавала звязкі (адыграўшы "Тутэйшых", "Крываву Мэры" ды "Знайсці Элізабэт"), хацелася б сустрэць Новы год не дома. А, скажам, у лесе. Або ў Японіі. І не Снягурку, а якую Бабу Ягу сыграць, — так і характарна, і весела, і можна шмат працытаваць са сваіх гераінь ды гераінек. З гадамі нават Новы год робіцца ўсё больш банальным: ёлка, стол, падарункі... Падарункі, якія яна хавае з дачкой ад таты і з татам — ад дачкі. Сабе не пакідае ніякіх сюрпрызаў...

Зрэшты, навагодні сюрпрыз можа заставацца за мужам, за партнёрам па купалаўскай сцэне,- за рэжысёрам, як выявілася — за Аляксандрам Гарцуевым. Магчыма, ён расстараецца і для публікі, — новая пастаноўка, падобна, ім ужо прыдумваецца і ролі ўжо размеркаваны...

**Ж.Л.**

*Фота Генадзя ЖЫНКОВА, "Культура"*

ІМПРЭЗЫ

# Тата, мама, я...

Сям'я, па народным тлумачэнні, "сямёра "я", тая часцінка роду, дзе чалавек адчувае сябе найбольш патрэбным, любімым, моцным; усе члены гэтай маленькай суполкі адлюстроўваюцца адзін у адным кожны здабывае гонар астатнім, а поспех ці параза аднаго адбіваюцца на ўсіх. На думку матэрыялістаў, сям'я — міні-грамадства, і размеркаванне роляў у ёй нечым прыпадабняецца да агульнасацыяльнай структуры. Што ж да ідэалістаў, дык яны лічаць сям'ю асвечаным богам саюзам людзей, і любоў, што аб'ядноўвае гэтых людзей, — дэміургам, здольным стварыць свой дзіўны свет.

Так, азначэнняў можа быць колькі заўгодна. Пэўна, і лад жыцця ў кожнай сям'і свой, гэтаксама як традыцыі і фамільныя святы. Стварыць жа свята для ўсіх былі прызначаны II Рэспубліканскі фестываль сямейнай творчасці, што напрыканцы мінулага года адбыўся ў старажытным Слоніме.

З'ехаліся сюды больш за 50 сем'яў з усіх рэгіёнаў Беларусі (праўда, найбольш прадстаўнічую дэлегацыю даслала Гродзеншчына, і прапанаваная ёй праграма выгодна адрознівалася зладжанасцю і досыць высокім узроўнем выканаўцаў). Узрост удзельнікаў вагаўся ў межах ад чатырох да 80 гадоў, а рэалізоўвалі яны сябе ў самых розных жанрах мастацтваў: танцах, песнях, сумесным музіцыраванні, народных мастацкіх рамёствах, і нават у такім незвычайным жанры, як пекарская скульптура. Што толькі не гучала са сцэны ў тыя снежаньскія перадкалядныя дні: народныя спевы, рамансы, прыпеўкі, джаз, эстрада, класічная музыка!

Фестываль урачыста адкрыўся "Радаводам пад Новы год", а гонар запаліць сімвалічны агонь фестывалю (ці сямейнага ачага) выпаў сям'і Ксяндзовых. Гэтая цудоўная пара слонімцаў разам ужо паўвека. Час і месца для вялікай імпрэзы былі абраны невыпадкова. Новы год — свята сямейнае, дый увесь сцэнічны антураж быў вытрыманы ў навагоднай стылістыцы: ёлка, упрыгожаная шарамі, гірлянды шарыкаў і каляровых лямпачак, надзьмутыя снегавікі і дзяды марозы... А ў канцэртнай праграме былі й калядкі, наладжаныя прафесійнымі і самадзейнымі артыстамі, і невялічкае карнавальнае шэсце. Гаворачы ж пра месца сустрэчы, старшыня Слонімскага гарвыканкама ахарактарызаваў свой горад, як "трэці ў вобласці па колькасці насельніцтва, другі — па плошчы, і першы — па гасціннасці і шыраце душы".

І сапраўды, зала Слонімскага РДК вітала ўдзельнікаў фэсту вельмі цёпла, а падчас гала-канцэрта нават не ўвабрала ўсіх жадаючых. Апроч выступаў у Слоніме, артысты паказалі сваё майстэрства на канцэртных пляцоўках раёна, у вясковых клубах і дамах культуры.

Адзначым, што значная частка выступоўцаў — сем'і культработнікаў. І хаця "прафесія гэта сёння не ў модзе", як спяваў адзін з такіх калектываў, не можна не радаваць увага да гэтых сем'яў. Прыгадайце, як за савецкім часам ушаноўвалі дынастыі рабочых і механізатараў, трошкі менш — настаўнікаў ці ўрачоў, а пра артыстаў узгадвалі звычайна ў кантэксце: "Зноў свайго прапхнуў". Хаця няўжо не натуральна, што дзіця наследуе сваім бацькам-мастакам ці спевакам? Увогуле, як цудоўна, калі дома ёсць і свой кампазітар, і паэт, і саліст — патэнцыяльная "зорка"!

Ну а калі ў сям'і нават не адна "зорка", а цэлае сузор'е артыстаў, ёй варта па-добраму пазайздросціць. Менавіта такімі паказалі сябе сем'і Парфенчыкаў з Лідскага раёна, Кавалёвых з Сянна, Гулай з Гомеля, Брылей з Іванаўскага раёна, Старавойтавых з Магілёва і многія іншыя.

Бліжэй пазнаёміцца з некаторымі з іх можна было на майстэрні сямейнай творчасці, якую правёў галоўны спецыяліст упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры А. Скарына.

Вызначыцца з узнагародамі журы было надзвычай цяжка, і дыскусіі працягваліся ледзь не да раніцы. Дый як абмінуць каго-небудзь, калі кожная сям'я прадэманстравала сваю адметнасць і унікальнасць свайго мастацтва! Урэшце вырашылі "месцы" не размяркоўваць, а абмежавацца прысуджэннем званняў "лаўрэат" і "дыпламант фестывалю" па некалькіх намінацыях (народныя мастацкія рамёствы, харэаграфія, інструментальная музыка, традыцыйная мастацтва і г. д.). Каштоўныя ж прызы атрымалі ўсе ўдзельнікі імпрэзы.

Застаецца дадаць, што лаўрэаты і дыпламанты II фестывалю сямейнай творчасці будуць прымаць удзел у заключных мерапрыемствах Першага фестывалю народнай творчасці Беларусі "Беларусь — мая песня", які адбудуцца ў ліпені 1998 года ў Мінску.

**Ірына БАРАВАЯ**

## На Маскву спадзявайся, а...

Так, дапамагчы могуць толькі дома. Менавіта так сталася з перакладам рамана народнага пісьменніка Беларусі Івана Шамякіна "Злая зорка" (аўтар перакладу на рускую мову — Тацяна Шамякіна). Даць яму жыццё ў Маскве ў свой час выказала жаданне выдавецтва "Советский писатель". Ды хутка насталі іншыя часы і разам з распадам СССР перастаў існаваць і "СП". Праўда, неўзабаве з'явілася новае выдавецтва з тым жа грыфам "СП" — "Современный писатель". У Івана Пятровіча, калі даведаўся пра гэта, зноў узнікла спадзяванне, што ягоная "Злая зорка" усё ж пабачыць свет. Аднак ішоў год за годам, а зрухаў — ніякіх. Нічога не заставалася І. Шамякіну, як "стукацца" ў беларускія выдавецтвы. З разуменнем паставіліся ў "Юнацтве", і цяпер рускамоўныя чытачы могуць пазнаёміцца з гэтым творам пісьменніка, у якім, як вядома, асэнсоўваюцца чарнобыльскія і паслячарнобыльскія праблемы.

## Мастацтва не прадаецца, прадаюцца творы

У галерэі "Жыльбел" праходзіць выстава пад назвай "Навагодні калейдаскоп". У ёй бяруць удзел жывапісцы з Мінска — Уладзімір Кожух, Аляксандр Дзямідаў, Анатоль Кузняцоў, Васіль Касцючэнка, Алесь Суша, Уладзімір Шапялевіч, а таксама Вікторыя Загнетава з Гародні. Гледачу прадстаўлены шырокі спектр стыляў. Ад абстрактна-каларыстычных кампазіцый да фігуратыўнага жывапісу. Ад эмацыянальнага ўспрымання свету да "умозрительных" пабудоў. Творы з выставы можна набыць, як, дарэчы, і ўсё, што экспануецца ў "Жыльбеле". Ёсць тут творы на ўсе густы, няма толькі безгустоўных.

П.В.

## Памяць — катэгорыя маральная

Як бы мы ні пераасэнсоўвалі сваё мінулае (а гэта справа патрэбная), нязменнай застаецца павага да тых, хто ў цяжкі час са зброяй у руках абараняў Радзіму. Асабліва, калі гэта былі людзі высокага гераізму і асабістай адвагі. А да іх належаў і Павел Галавачоў — адзін з чатырох беларускіх воінаў, які ўдастоены двойчы ганаровага звання Герой Савецкага Саюза. Павел Якаўлевіч прайшоў слаўны баявы шлях ад радавога да генерала. У гэтыя дні нашаму сыну Бацькаўшчыны споўнілася б 80 гадоў. У сувязі з юбілеем у Дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны створана экспазіцыя, прысвечаная П. Галавачову. Адкрываецца яна скульптурным партрэтам героя, выкананым вядомым нашым скульптарам Сяргеем Вакарам. Ёсць мажлівасць пазнаёміцца з ордэнамі і медалямі, якія пасля смерці Паўла Якаўлевіча родныя перадалі ў музей, яго асабістымі рэчамі. І, канечне ж, са шматлікімі здымкамі і матэрыяламі, з якіх можна даведацца, што ў гады Вялікай Айчыннай вайны П. Галавачоў зрабіў 450 баявых вылетаў, удзельнічаў у 125 паветраных баях, у час якіх асабіста збіў 31 фашысцкі самалёт.

## Запрашае Дом літаратара

14 студзеня адбудзецца прэм'ера дакументальных фільмаў "Конь гуляў на волі" і "Крэва", пастаўленых на студыі "Летапіс".

21 студзеня паэтычны тэатр "Зніч" запрашае на сустрэчу з Сяргеем Грахоўскім. Спектакль называецца "У час узлётаў і ў пару крушэнняў...".

Аматары сатыры і гумару могуць наведаць 28 студзеня творчую вечарыну паэта-сатырыка, парадыста, мовазнаўца, крытыка Георгія Юрчанкі.

Усе згаданыя мерапрыемствы пачынаюцца а 18 гадзіне.

На сумесным пасяджэнні секцыі прозы і секцыі крытыкі і літаратуразнаўства 20 студзеня будуць абмеркаваны пераклады беларускай прозы на старонках часопіса "Нёман".

22 студзеня засядае ваенна-шэфская камісія. Сумесна з прадстаўнікамі Дзяржкамітэта пагранвойск Рэспублікі Беларусь будуць абмеркаваны пытанні правядзення Рэспубліканскага конкурсу на лепшы літаратурны твор, прысвечаны жыццю пагранічнікаў.

29 студзеня збіраецца секцыя літаратуры для дзяцей і юнацтва.

Гэтыя мерапрыемствы пачынаюцца а 15 гадзіне.

ЮБІЛЕЙ

***У снежні споўнілася 75 гадоў з дня выхаду першага нумара часопіса "Полымя". Чамусьці гэты юбілей не быў так шырока адзначаны грамадскасцю, як, скажам, 50-годдзе, 60-годдзе, 70-годдзе старэйшыны сярод нацыянальных літаратурна-мастацкіх выданняў. Магчыма, сёй-той палічыў, што 75 гадоў — не такая ўжо і "круглая" дата. Магчыма, былі іншыя прычыны. Але не іх трэба высвятляць, а — згадаць добрым словам выданне, якое служыла, служыць і, спадзяёмся, будзе служыць справе беларускасці, справе Адраджэння, прапагандуючы на сваіх старонках усё лепшае, што ствараецца нашымі пісьменнікамі цяпер, а таксама вяртаючы з небыцця творы, напісаныя раней і незаслужана забытыя, закранаючы розныя аспекты нацыянальнай гісторыі, развіцця мастацтва, культуры.***

# "Полымя" будзе свяціць!

### НА ПЫТАННІ АЛЕСЯ МАРЦІНОВІЧА АДКАЗВАЕ ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР ЧАСОПІСА "ПОЛЫМЯ" СЯРГЕЙ ЗАКОННІКАЎ

**— Сяргей Іванавіч, 75 гадоў для выдання — час немалы. Такія змены за гэты час адбыліся ў жыцці грамадства, а "Полымя" як "свяціла" ярка, так і працягвае гэта рабіць. Як кажуць, нягледзячы ні на што — на ўмовы спрыяльныя, на ўмовы неспрыяльныя...**

— Сапраўды, "Полымя" — адно з самых старэйшых літаратурна-мастацкіх і грамадска-палітычных выданняў на ўсёй тэрыторыі былога Савецкага Саюза ці сённяшняй СНД. 75 гадоў жыцця для такога часопіса — лёс унікальны! І самае галоўнае, што пры ўсіх варунках, часам амаль пагібельных, пры ўсіх выдатках, нярэдка даволі значных, ён быў важным духоўным асяродкам Беларусі, прытулкам для самабытнага, таленавітага слова і думкі, апірышчам для новых і новых пакаленняў айчынных пісьменнікаў, навукоўцаў. Асвятленне сучаснага літаратурнага працэсу, асэнсаванне з дапамогаю мастацкага слова ўсяго нашага жыцця, падвышэнне духоўнай моцы народа, шматгранная асветніцкая місія часопіса застаюцца нязменнымі.

**— І ўсё ж, скажу так, чым адметнае "Полымя"... Сяргея Законнікава?**

— Часопіс робіцца намаганнямі аўтарскага актыву, усяго калектыву рэдакцыі. Я з вялікаю павагаю і ўдзячнасцю стаўлюся да прапаноў, ідэй, ініцыятыў кожнага супрацоўніка, членаў рэдкалегіі. А сэнс пытання — зразумелы. Сапраўды, галоўны рэдактар не толькі вызначае стратэгічны накірунак, тактыку, але і канчаткова фармуе кожны чарговы нумар часопіса, за ім — апошняе слова. У мяне за плячамі адзінаццаць гадоў рэдактарства, 130 кніжак "Полымя". І за ўсё, што зроблена, я, як кажуць, адказваю галавою. Не мне судзіць пра тое, якім стаў часопіс. На гэта ёсць крытычная думка спецыялістаў, чытацкая ацэнка. Я высока ацэньваю і шаную працу маіх папярэднікаў, такіх былых галоўных рэдактараў "Полымя", як, скажам, Максім Танк. Але хачу зазначыць, што пазней — у сямідзесятых і першай палове васьмідзесятых гадоў — на часопісе ляжаў выразны адбітак не толькі зашоранасці і скаванасці тагачаснай сістэмай, але і нейкай застыгласці, статычнасці. Ён быў падобны на зборнік інструкцый: блок да блока, або, калі прыбегнуць да больш далёкай асацыяцыі, на кладку сцяны без раствору: проста клалася цагліна на цагліну. Мне хацелася, каб часопіс стаў цэльным, жывым і дзейсным арганізмам, каб ён не распадаўся на часткі, каб галоўная ідэя аб'ядноўвала і, як страла, прanізвала ўсё, што змешчана ў яго вокладках. А такая ідэя на нашай зямлі выспельвалася не адно стагоддзе — Беларусь мае права на дзяржаўнасць, а яе народ павінен стаць свабодным, роўным паміж роўнымі, каб сцвердзіць сябе ў гэтым свеце. Пра гэта марылі, за гэта змагаліся і паклалі галовы тысячы лепшых сыноў і дачок Беларусі, і ў першую чаргу — пісьменнікі, вучоныя — сапраўдныя патрыёты Айчыны, дзякуючы якім, хоць і знямоглая, і затаптаная, але яшчэ дыхае наша нацыя, яшчэ мае шанц адрадзіцца.

Хочацца думаць, што пастаўленая мэта дасягаецца. Сёння "Полымя" — тое выданне, дзе кожны чытач можа знайсці нешта сваё, якраз яму патрэбнае, дзе высокамастацкія навінкі ва ўсіх жанрах прыгожага пісьменства падсвечваюцца спадчынай, гістарычнымі матэрыяламі, архіўнымі дакументамі, дзе арганічна спалучаюцца інфарматыўнасць, публіцыстычнасць з грунтоўным, прафесійным аналізам не толькі літаратурнага, духоўнага, але і палітычнага, эканамічнага і сацыяльнага жыцця Беларусі ў рэтраспекцыі і перспектыве, у суадносінах да еўрапейскага і сусветнага вопыту.

**— Тыраж "Полымя", як быццам, не такі і вялікі, але, што, думаецца, важна, ён больш-менш стабільны. І гэта ў нашых не вельмі спрыяльных для справы беларускасці ўмовах...**

— Што і казаць, час для нас, як і для ўсіх беларускамоўных выданняў, нялёгкі. Але на працягу бягучага года тыраж "Полымя" быў адным з самых высокіх сярод родных часопісаў — амаль 5 тысяч экземпляраў. А ў чацвёртым квартале падпіска вырасла больш чым на 2 тысячы. Ведаю, што гэта адбылося пры падтрымцы настаўнікаў, выкладчыкаў, якія зрабілі свой выбар на карысць "Полымя". Ім наша шчырая ўдзячнасць!

Улічваючы пастаянны рост цэнаў, татальную інфляцыю, тое, што жыццёвы ўзровень людзей катастрафічна падае, што кожная сям'я думае цяпер толькі пра адно — як пракарміцца, разлічваць на высокую запатрабавальнасць літаратурных выданняў, кніг, як гэта было раней, не выпадае. Нават часопіс "Новый мир", які меў калісьці тыраж 1 мільён 200 тысяч экземпляраў, сёння апусціўся да васемнаццаці тысяч. А ён жа распаўсюджваецца па такой вялікай дзяржаве, як Расія, і па ўсёй тэрыторыі СНД.

Зазначу яшчэ, што ў заможных, стабільных краінах Заходняй Еўропы — Германіі, Францыі, Італіі, дзе мне давялося быць і цікавіцца выдавецкай справай, сур'ёзныя літаратурныя часопісы выходзяць тыражом 2-3 тысячы экземпляраў. І гэта лічыцца нармальным.

Не выключана, што ў наступным годзе тыраж часопіса ў параўнанні з чацвёртым кварталам бягучага зменшыцца. Але ў "Полымя" ёсць свой пастаянны чытач, які ведае цану сапраўднай літаратуры і не парывае сувязі з намі. На яго і спадзяёмся.

**— Якімі новымі цікавымі творамі "Полымя" парадуе чытачоў у гэтым годзе?**

— Проза будзе прадстаўлена новымі творамі Васіля Быкава, Янкі Брыля, Івана Шамякіна, Анатоля Кудраўца, Віктара Казько, Віктара Карамазава, Вольгі Іпатавай, Святланы Алексіевіч, Алеся Петрашкевіча, Генрыха Далідовіча, Уладзіміра Бутрамеева, Леаніда Калодзежнага. Новыя паэтычныя нізкі часопісу прапанавалі Рыгор Барадулін, Анатоль Вярцінскі, Васіль Зуёнак, Сяргей Грахоўскі, Раман Тармола-Мірскі, Мікола Мятліцкі, Фелікс Баторын.

У раздзеле "Старонкі нашай гісторыі" будзе надрукаваны дыярыуш Яна Уладзіслава Пачобута-Адланіцкага. Спадзяёмся, што чытачы з цікавасцю азнаёмяцца з дзённікамі Пімена Панчанкі, літаратурнай спадчынай Аркадзя Моркаўкі, з лістамі Юркі Віцьбіча да Пятра Глебкі, з матэрыяламі пад пастаянай рубрыкай "Культура мовы". Усё пералічыць немагчыма, ды гэта і нявартa рабіць. Лепей чытаць сам часопіс.

**— Але ж "Полымя" ва ўсе часы, няхай, праўда, і не так актыўна, як "Маладосць" ці "Першацвет", адкрывала і новых аўтараў. У 1998 годзе гэтая традыцыя будзе прадоўжана?**

— Згодзен, што "Полымя" не часта адкрывае новыя імёны. Такая спецыфіка нашага выдання — знаёміць чытачоў з самымі лепшымі набыткамі айчыннай літаратуры і літаратур замежжа. Каб падняцца на пэўную вышыню, малады аўтар павінен назапасіць вопыт, не адзін год настойліва і самааддана працаваць. Аднак, магу запэўніць, што ніводзін таленавіты чалавек, які завітвае з творамі ў "Полымя", не быў абыдзены ўвагаю. Дэбюты на старонках часопіса — рэч не экзатычная. Не будзе выключэннем і 1998 год.

**— Пра што вы марыце, як галоўны рэдактар галоўнага літаратурна-мастацкага часопіса Рэспублікі Беларусь?..**

— Думаецца і марыцца пра многае. Як кажуць, марыць нікому не забаронена. Ды ведаю, што, на жаль, гэтым маім марам пакуль не суджана спраўдзіцца. Цешыць тое, што беларуская літаратура, нягледзячы на сённяшнія маральныя і матэрыяльныя ўціск, жыве і радуе нас сапраўднымі творчымі ўдачамі, высокімі дасягненнямі. Гэта бачна і па рэдакцыйным партфелі "Полымя". А засмучаюць надзвычай абмежаваныя фінансавыя і тэхнічныя магчымасці рэдакцыі для таго, каб своечасова данесці створанае пісьменнікамі да чытача, каб працаваць рытмічна, на поўную сілу. Пра што тут яшчэ казаць, калі зараз тры ці нават чатыры супрацоўнікі таўкуцца каля аднаго камп'ютэра, не маючы прасторы для рэалізацыі сваіх здольнасцей.

А таму мары мае самыя прыземленыя: мець элементарную матэрыяльна-тэхнічную аснову, каб не марнаваўся творчы патэнцыял рэдакцыі. Калектыў не сядзіць, склаўшы рукі, працуе, шукае і пакрысе нешта знаходзіць. Наша лепта — пакрыццё выдаткаў, патрэбных для выпуску часопіса, на 25—35 працэнтаў. Нядаўна створаны і зарэгістраваны Рэспубліканскі літаратурна-мастацкі фонд "Гронка", які мае на мэце падтрымку часопіса "Полымя", а таксама, у перспектыве, дапамогу літаратарам у выданні іхніх кніг, арганізацыю самых розных карысных акцый.



**— Як паэт...**

— Мару пра тое, што зменшыцца цяжар неўладкаванасці і будзе выпадаць болей вольных хвілін, каб засярodзіцца над вынашаным душою. Зрэшты, і ў гэтых умовах за год удалося нешта зрабіць: ёсць новыя вершы, эсэ. Спадзяюся, як і кожны творца, што напісанае калісьці будзе выдадзена.

**— Як чалавек...**

— За пяцьдзесят адзін год жыцця я пабачыў і зведаў многае. Часам, задумваешся і дзівішся, як у гэты, не такі ўжо вялікі па мерках гісторыі, прамежак змагло ўмясціцца столькі ўзрушэнняў, перамен, паваротаў: апошнія гады сталінскага рэжыму, хрушчоўскія, брэжнеўскія, гарбачоўскія часы і сённяшняя бязладзіца. Аглядаючыся назад, цвёрда магу сказаць, што ніколі мы не жылі нармальна, па-чалавечы. Перад вачамі: мама, якая выстойвае цэлы дзень чаргу, каб купіць кавалак паркалю на сукенку; хатулі з мукою, якія бацькі, адолеўшы пехатою 60 кіламетраў, прынеслі аж з Бачэйкава, каб спячы хлеба для нашай немалой сямейкі, і многае, многае іншае. Увогуле, усё наша жыццё прайшло ў чэргах па нейкую пайку. І само маё асабістае існаванне ўяўляецца мне нейкім адпушчанай лагернай пайкай.

Шкада, што ў многіх людзей пад прэсам сённяшняга рэзруху прападае памяць, ім хочацца вярнуцца ў "заможнае" мінулае, схаваўшыся ад нягод пад нейчым крылом.

У мяне такога жадання няма. Трэба верыць у свае сілы і стварыць. Радасна, што такая вера выспявае ў маладым пакаленні беларусаў. Праўда за імі! Я мару пра тое, што Беларусь, якая была часткай савецкай імперыі, а сёння з'яўляецца прахадным дваром, калідорам паміж Расіяй і Еўропай і ўцягваецца ў сумніцельныя саюзы, стане ўсё ж сапраўды незалежнай дзяржавай, каб будаваць сваё годнае, нацыянальна пайнакроўнае жыццё.

Я веру ў спраўджанне гэтых мараў, веру ў будучыню Беларусі. Наша зямля і яе насельнікі пасля стольких пакут, гвалту, здзеку і выпрабаванняў маюць права на лепшую долю. Шкада, што мяне ў тым часе не будзе, але, дай Божа, каб жылі ў ім не так, як мы, а па-людску, разумна, багата і шчасліва нашы нашчадкі.

*У 85-м Аляксей Ануфрыевіч лёс пісьменніка "намаляваў" так: "Жыццё ўсё робіць для таго, каб мастак стварыў як мага меней. Спачатку шмат часу ідзе на тое, каб "прабіцца", каб цябе проста заўважылі і прызналі. Нарэшце гэты этап наступае. Цябе будуць ляпаць па плячы і гаварыць: "Малайчына!" Але хутка пачнуць шукаць у тваёй творчасці такія моманты, дзе ты не так глядзіш на свет, не працягваеш традыцыі, нешта пастаянна парушаеш. Першае можна назваць агнём, другое — вадой.*
*Але і гэта не самае страшнае. Пачынаюцца медныя трубы.*
*Зараз ужо ўсе грахі, якія ты дапускаў, становяцца тваімі набыткамі.*
*І далёка не аб'ектыўна. З'яўляюцца хвалебныя рэцэнзіі. Створаны аўтарытэт пачынае адмяжоўваць цябе ад аб'ектыўных стрэл. Пачынаюць браць інтэрв'ю, запрашаць на розныя сімпозіумы, семінары, сустрэчы з калегамі, фестывалі і г.д. І вось гэта пераажыць вельмі складана. Гэта самае апошняе выпрабаванне. Яно адбірае самае каштоўнае — час..." Ну як было не пачаць з гэтага гаворку з пісьменнікам!*

## Аляксей ДУДАРАЎ:

# "Мы перасталі быць месіямі!.."

**— Прайшло ўжо 12 гадоў, і ці змянілася што, Аляксей Ануфрыевіч, у вашым пісьменніцкім жыцці? Якім вам зараз бачыцца "апошняе выпрабаванне"?**

— Цудоўная цытата! Я не памятаю, дзе я гэта гаварыў, але гатоў паўтарыць яе і сёння даслоўна. Канешне, апошняе выпрабаванне для мастака, для творцы (а мы гаворым пра творцу, які ўжо нечага дасягнуў) — яно самае цяжкае. І тут справа не ў тым, што цябе могуць захваліць, што ты станеш пыхлівы. Мне гэта акурат ніколі не пагражала, бо ў мяне іншы характар... Але час не абмінуў і мяне: недзе напрыканцы 80-х—пачатку 90-х гадоў у маёй творчасці быў спад, гэта можна яшчэ прыгожа назваць "крызісам". Але я не супакоіўся... Хаця "трубы" яшчэ гучалі! Яны і дагэтуль бы гучалі, каб я нічога не рабіў! Мне здаецца, хто помніць сярэдзіну васьмідзесятых гадоў, — той мяне ніколі не забудзе... Дык вось і супраць "труб" жыццё дае збавенне — калі пачынае ўсё затухаць... Цябе элементарна пачынаюць забываць! Калі ў 85-м годзе "Радавыя" атрымалі Дзяржаўную прэмію СССР, я хадзіў як Герой Савецкага Саюза! Ну і яны яшчэ гадоў пяць ішлі на сцэне, а потым сышлі — і гэта зусім аб'ектыўна... Людзі пачынаюць забываць. І калі чалавека гэта задавальняе — у рэшце рэшт у яго ўжо наладжаны дабрабыт, ён уваходзіць у розныя структуры (а гэта захоўваецца надоўга, калі ты актыўны ў грамадскім ці дзяржаўным жыцці), — дык ты можаш і да старасці жыць, маючы гэты капітал... Але я не з тых, мяне гэта абсалютна не задавальняе! Таму я працягваю працаваць, сціснуўшы зубы. І адношуся да гэтага, як філосаф: пройдзе!

**— А яшчэ крыху пазней вы сказалі: "Я стаўлюся да сябе цвяроза: пісаў, быў патрэбны, цяпер мне здаецца, што непатрэбен нікому. Пра што людзі гавораць: грошы — прадукты — жыллё. Ці ў адваротным парадку, але пра тое ж самае. Хто цяпер пытаецца, што напісаў Быкаў, Барадулін, Разанаў?"**

— Так, гэта трошкі пазней было: акурат 91-92-93 гады... Сапраўды, я цяпер не такі патрэбны. І не толькі я — ніхто! Хто б што ні напісаў. І справа не ў тым, што мы нічога не робім, — проста ў жыцці адбыліся перамены: вырасла нейкая маладая псіхалогія... Мы перасталі быць месіямі, як раней былі! Раней адно тое, што ты пісьменнік (і не важна: што і як ты пішаш!), ствარала вакол цябе нейкі арэол. А зараз — не. Дарэчы, на Захадзе даўным даўно гэтак было. А ў нас, у славян, з паганскіх часоў цягнулася такая традыцыя: калі чалавек меў нейкі талент — людзі, грамадства лічылі, што гэты чалавек мае сувязь з вышэйшымі сіламі, як жрэц. Таленту заўсёды пакланяліся... Але гэта праходзіць, нічога страшнага.

**— Аляксей Ануфрыевіч, вы з'яўляецеся адным са старшыняў грамадзянскай партыі... Чаму вы пайшлі ў палітыку?**

— Зараз ужо я не з'яўляюся сустаршынёй грамадзянскай партыі. Хаця я заўсёды да палітыкі ставіўся асцярожна, трымаў дыстанцыю. Я не быў членам камуністычнай партыі, нягледзячы на ўсе свае званні і рэгаліі (мне неаднаразова і прапаноўвалі ўступіць у яе, і настойвалі)... Але тут не ўтрымаўся! Кожная партыя заўсёды прыцягвае як мага болей "імёнаў" — і ў гэтым нічога дрэннага няма. А я па складзе характару і па духу, і па мысленні — цэнтрыст, я ведаю, што сярэдзінку нездарма празвалі "залатой" — і тая праграма, якая была ў грамадзянскай партыі, — яна мяне болей за ўсё задавальняла... Але зараз, ужо гады два, як я ад гэтага адышоў (мяне ўспамінаюць калі-нікалі, як вы, толькі намінальна). Ведаеце, я ніколі не разлічваў ні на якую палітычную кар'еру, тым больш, што каб быць сапраўдным палітыкам "о-го-го" што трэба мець і "о-го-го" на што трэба наступіць! Але, ва ўсялякім выпадку, я зусім не каюся: вопыт я атрымаў, і даволі вялікі.

**— У годзе 93-м вы сказалі: "Беларусь доўга чакала, і я дзякую Богу, што ў нас змены адбываюцца так спакойна. Ну няхай у нас жаданае наступіць на 50 гадоў пазней, нам жа хочацца сёння і каб усё адразу". Ці не здаецца вам, што з сённяшнім кіраўніцтвам змены ў нас ніколі не адбудуцца?**

— Ну, гэта будзе супярэчыць нават дыялектыцы Гегеля: ніякае кіраўніцтва, ніякія аўтарытэты ход падзей змяніць не могуць! Ужо які быў магутны Савецкі Саюз, якая была магутная праваахоўная "карательная" сістэма, разведка, КДБ — Саюз рассыпаўся, як картачны домік. Сказалі б мне за год да гэтага, што так будзе, я б рассмяяўся! І тут справа не ў Гарбачове і не ў гэтых трох "белавежскіх зубрах", што прыйшлі, падпісалі нейкую паперу і развалілі Саюз!..

**— Ну дык а што ж з Беларуссю?**

— З Беларуссю што будзе? Як ні хацелі здаць яе суверэнітэт — нічога не атрымліваецца і не атрымаецца! Мы "асуджаны на суверэнітэт", асуджаны жыць асобна, нармальна. І гэта не залежыць ад таго, ці выспаліся ў Варшаве, ці паспелі пахмяліцца ў Крамлі... А зараз нават пры жаданні інтэграцыі (а я нічога не маю супраць адсутнасці межаў) — не ўсё ўжо залежыць ад жадання Крамля! І гэты працэс будзе паглыбляцца і надалей. І, як ні дзіўна, гэтаму будзе спрыяць і самы галоўны інтэгратар — наш прэзідэнт. Я веру, што Беларусь будзе незалежнай! І па Канстытуцыі, я ўжо некалі казаў па радыё, буду абараняць суверэнітэт да апошняй кроплі крыві.

**— Я ведаю, што вы не любіце мітынгі... Дык якая форма палітычнага пратэсту вам падабаецца больш?**

— Не тое што я мітынгі не люблю, але, калі я трапляю на мітынг — незалежна ад таго, "левы" ён ці "правы", — мяне пачынае трэсці, я адчуваю, што мая душа пачынае мітусіцца... Я ведаю, нешта адбываецца, але адбываецца нешта дрэннае, не боскае... Якая форма пратэсту?.. А якая форма пратэсту была ў хрысціян? У хрысці-я-ян, я маю на ўвазе дзве тысячы гадоў таму, калі іх раскрыжоўвалі, забівалі, выганялі, бэсцілі? Яны што, браліся за палкі? Падпальвалі дамы? Яны цярпелі, маліліся і былі ўпэўнены ў тым, што за імі будучыня. І самае галоўнае — яны не ўдзельнічалі, нават за самы тлусты кавалак, "в мерзостях", менавіта па-руску — "в мерзостях"!.. Як палітычных, так і гаспадарчых і ва ўсіх іншых! Вось гэта, можа, самая моцная і небяспечная рэч для тых, хто няправую справу робіць... Я веру старым людзям, якія ваявалі, жылі ў камуналках, якія ўсё жыццё ні за што адрабілі і нічога за гэта не атрымалі. Вось ім я веру, што яны шчыра (!) падтрымліваюць гэтыя "мерзости", і гэта не іх віна, гэта іх бяда, яны так жылі! Але чалавек, які ўжо жыў у іншым пакаленні, а зараз пачынае казаць нешта... Калі тут "Навінкі" не ўмяшаліся, значыць — гэта элементарны разлік на тлусты кавалак хлеба!

**— Аляксей Ануфрыевіч, раней вы хацелі "змяніць, асучасніць" Дом літаратара, бо вам "абрыдла гэтае балота, у якое ёнператварыўся". Вы ведаеце, што цяпер яго перадаюць у ведамства І. Ціцянкова. І як вы лічыце: што яшчэ зараз можна зрабіць, каб яго "асучасніць"?**

— Гэта маё жаданне супала акурат з тым часам, калі я памкнуўся ў палітыку. І гэта тая ж самая палітыка! Памяняць нічога ў Саюзе нельга: ён павінен ці сам памяняцца, ці ператварыцца ў нешта іншае, а мяняць нічога нельга і не трэба... А наконт таго, што ён пераходзіць у ведамства Ціцянкова — дык гэта не Саюз пераходзіць, а толькі будынак. Ну і няхай рамантуюць! Я не думаю, што ў іх хопіць смеласці і нахабства выкідваць з кабінетаў Зуёнка і сакратароў. А памяняць нешта? Не! Бо, як і любая структура, Саюз пісьменнікаў жыў сваім часам. Я не ведаю, ці казаў я, што гэта балота...

**— Гэта цытата!**

— ...Ну тады каюся. Але наконт таго, што Саюз жыве па архаічных законах, ва ўчарашнім дні — ад гэтага не адмаўляюся!

**— А ваш Саюз тэатральных дзеячаў?**

— А наш Саюз жыве яшчэ! Нас жыццё прымушае не заставацца ва ўчарашнім дні, бо ў тэатр людзі проста перастануць хадзіць! Тэатр бліжэй да жыцця і разам з ім коціцца. Хаця і ў нас ёсць замшэласць...

**— Дарэчы, Аляксей Ануфрыевіч, я ведаю, што і вы здымаліся ў кіно... Скончылі тэатральна-мастацкі інстытут, а потым здымаліся ў дзвюх стужках Басава, напісалі сцэнарый да фільма "Белыя росы"... І што, на гэтым вашая "кінаэпапея" скончылася?**

— "Белыя росы" — гэта не апошняя мая стужка, яшчэ была стужка "Асеннія сны" — яе па "Вечару" зняў Ігар Дабралюбаў. Гэта фільм такі камерны, і прайшоў ён ціха, незаўважна... Пасля гэтага нічога не пісаў... А зараз — пішы не пішы, няма грошай здымаць. Вось з Пташуком мы зрабілі добры сцэнарый пра князя Вітаўта (дарэчы, на аснове п'есы, якая ідзе ў Купалаўскім тэатры), нават дамоўленасць нейкая з польскай студыяй была, але на гэта трэба вялікія грошы, якіх няма. Вось і ўсё.

**— Скажыце, калі да вас прыйшло "жаданне стварыць Вялікага Сябе"?**

— А таму нешта і атрымалася, бо ніколі ў жыцці ў мяне такога жадання не было! Я некалі казаў, што "муза — гэта як вельмі цнатлівая жанчына: калі ты што-небудзь ад яе хочаш, яна, па-першае, адразу гэта адчуе, а, па-другое, — ні-чо-га ты ад яе не атрымаеш! А калі ты проста ёй як раб служыш, — яна табе дасць усё! Усё, аб чым ты нават і не марыў!

**— Адам Глобус аднойчы праз прэсу задаў вам пытанне такім чынам: "Драматург Аляксей Дудараў, які з гонарам гаворыць, што ў сям'і размаўляе па-расійску, пераклаў Шэкспіравага "Гамлета" на беларускую мову. Усё ясна. Але карціць запытацца: "Гамлет" перакладаўся з сямейнае мовы ці са старажытнаангельскай?" Што вы яму адказалі?**

— Мяне зусім не цікавіць, на якой мове размаўляе са сваёй жонкай Глобус! І я дастаткова дарослы чалавек, каб на шпілечкі калючага хлопчыка не рэагаваць!

**— Скажыце мне, калі ласка, як сталася, што вы, старшыня Саюза тэатральных дзеячаў і член Назіральнага Савета "Пріорбанка", не змаглі ў мінулым годзе дапамагчы Альтэрнатыўнаму тэатру захаваць плошчу на вуліцы Веры Харужай?**

— Ой, гэтае пытанне вельмі складанае. Не ўсё можа зрабіць нават і прэзідэнт банка! Цяпер усё дыктуюць эканамічныя законы, рынак. Пытанне не ў тым, што проста ўзялі і выгналі бедны тэатр, як гэта здаецца знешне, а ў тым, што кожны месяц трэба было выплачваць тры тысячы долараў на ўтрыманне будынка. Спонсары ад іх адмовіліся, а ў банка пайшлі справы не так, як на пачатку 90-х гадоў. Горш стала. Вось і ўсё.

**— Вы ўдзельнічалі як-небудзь у далейшым лёсе тэатра?**

— А ён зараз знаходзіцца пад крылом нашага Саюза тэатральных дзеячаў, праўда, пад назвай ужо не Альтэрнатыўнага, а Малога тэатра. Я спадзяюся, што ён будзе існаваць і плённа працаваць.

**— "Я пастаянна незадаволены сабою, вечна пахмурны, а пахмурны чалавек не можа сябе любіць. Праўда, бываюць моманты, калі я сабе падабаюся". Калі гэтак бывае?**

— Тады, калі працую, калі атрымліваецца. Калі не дазваляю сабе быць няшчырым, калі ў жыцці не трэба крывіць душой. А самае галоўнае — калі на душы спакойна... А спакойна на душы бывае тады, калі ты працуеш над ёю.

**— Неяк вы прызналіся, што ў сваёй творчасці дрэнна адчуваеце жанчын. "Яны ў мяне такія, якімі я хачу іх бачыць..." Дык а як жа вы іх адчуваеце ў жыцці?**

— Пакажыце мне мужчыну, які адчувае жанчыну, і я стану перад ім на калені... Але хутчэй за ўсё: хлусіць ён, сабака!

**— Цудоўна! Аляксей Ануфрыевіч, скажыце, чым зараз займаецца ваш сын? Ён, я ведаю, ужо дарослы...**

— Ён зараз вучыцца на першым курсе Акадэміі мастацтваў па жывапісе.

**— ...І ў вас яшчэ ёсць маленькая дачка. Так?**

— Ну ў першы клас пайшла. Алеся. Сем гадоў. Артыстычная, як кажуць у школе. Вельмі артыстычная.

**— І апошняе маё пытанне. Мне неяк вельмі спадабалася вашае азначэнне сапраўднага мужчыны: "У першую чаргу, гэта чалавек "порядочный" і незалежны. Ён не павінен быць бедным, таму што быць такім — пошла". У якім узросце вы нарэшце адчулі сябе "сапраўдным"?**

— Ну калі абмежаваць вызначэнне сапраўднага мужчыны толькі гэтымі двума пасыламі...

**— Якое, дарэчы, абмежавалі вы самі!**

— ...Тады мне было гадоў за трыццаць... Трыццаць адзін — трыццаць два. Тут справа не ў вялікім багацці, не ў раскошы і брыльянтах, а проста мужчына для сям'і павінен стварыць нармальныя, годныя ўмовы існавання! На вялікі жаль, мала нас, тым больш па сённяшнім часе, сапраўдных мужчын!

**Інтэрв'ю правяла Раіса МШАР**

з самых нечаканых бакоў: як з пазітыўных, так і адмоўных. Так, "памяркоўны інтэрнацыяналізм" у нашай літаратуры нямала садзейнічаў, напрыклад, з"яўленню зараз тысяч цёмнаскурых дзяцей-сірот у дзіцячых садках. Пагром культуры бальшавікамі і далейшы ўціск уладаў сфармавалі, назавём яе ўмоўна, сервільную літаратуру. Адначасова не магла не ўзнікнуць літаратура нацыянальнага супраціву. Літпрастора нашай краіны дасюль сфармавалася, на маю думку, з гэтых дзвюх літаратур. Прадстаўнікі сервільнай — уладнай і шматлікай, арыентаваліся, уласна кажучы, на суседзяў: больш на Расію і менш на Польшчу. Але за мову трымаліся. Прадстаўнікі другой выступалі і выступаюць за нацыянальны прыярытэт. Менавіта літаратура супраціву нарадзіла прэвалюючыя імёны: М. Багдановіча, М. Гарэцкага, Ф. Аляхновіча, У. Караткевіча, В. Быкава, многіх эмігрантаў і нараджае тых, хто прыйдзе за імі.

Народ, нават "аксамітна" далучаны да іншага народа, будзе ўсё-такі асобным этнасам, пакуль ён мае свае літаратуру ды мастацтва.

Ды вось сустрэўся мне нядаўна малады літаратар. Ён скончыў Маскоўскі літінстытут, але жыве ў Мінску. "Я рускі паэт, — кажа ён у размове, — і пішу, і буду пісаць па-руску". Ён — беларус па бацьку і недурны малады чалавек, але ў душы ў яго — пустата. Што яму адказаць? Пра Багдановіча ці пра Яндарбіева? Ён не разумее. Якую культуру, якое слова панясе ён тут, дзе жыў увесь час, за выключэннем тых чатырох гадоў у Маскве? Створыць новую "Івушку неплакучую" ці якую "Журавушку"? Наўрад. Нават на гэта трэба быць чалавекам стэпаў і раўнін. Апіша свой з прусакамі інтэрнацік у Маскве, дзе прагаварыў па-руску чатыры гады? І што?

Пра што яна ўвогуле будзе пісаць — гэта "трэцяя" літаратура? Ніякая, але маючая апірышча з боку суседзяў, "асаднікаў" ды сваіх калабарантаў. Вядома, ужо не "пра самага чалавечнага" і не пра "сияющие от счастья лица" апаратараў машыннага даення. Ужо было і — нецікава. Яна можа "плаваць" ці то ў бок бытавізму, ці то фантастычна-інтэрнацыянальных "фэнтэзі", ці ў бок нацнігілізму ці той жа халопаманіі. Хаця адно з яе боку праглядваецца акрэслена — гэта замах на галоўную нацыянальную каштоўнасць і замена яе (мовы). (Успомнім: нават Л. Бэндэ складаў у свой час чытанкі і хрэстаматыі па беларускай літаратуры для школ).

..."В центре болот высилась деревенька. Звуки балалайки доносились оттуда...", — прачытаў неяк са здзіўленнем кавалак "прозы" аднаго прадстаўніка гэтай "літаратуры будучага". Але ж пра балоты ўсё-ткі вымагае пісаць мовай туманаў ды балот, а не стэпаў і раўнін. Літмеліярацыя, якая пачалася ў нас зараз, калі і пакіне па сабе тыя "деревеньки в центре", то жыхароў іх — хіба што вартымі жалю пустадомкамі.

**Юры СТАНКЕВІЧ**

## ІМЁНЫ ДЛЯ ТАЕМНЫХ ДУМ

У загалоўку не мае словы — В. Зуёнка, аўтара нізкі вершаў у часопісе "Полымя", крыху перайначаныя.

Апошнім часам лаўлю сябе на тым, што ў новых творах амаль не зважаю на сюжэт, кампазіцыю, іншую літаратурную атрыбутыку, выхопліваючы асобныя фрагменты, якія ўражваюць, бо адпавядаюць майму цяперашняму розуманастрою. Праўдзівей кажучы, шукаю словы, назвы, імёны, якія памагаюць зразумець самога сябе, а праз сябе і тое, што пераламляецца ў душы, ідучы звонку. Прываблівае найперш інтэлектуальная паэзія і проза і — як супрацьвага — "карнавальныя" рэчы, дзе руйнуюцца звыклыя сувязі слоў і ўстанаўліваюцца новыя, нечаканыя. Побыт, "малюнкі" з натуры рэдка прываблівaюць: побыт нас акружае штохвіліны, заганяе нас у кут, не дае прадыхнуць, быццам чытаеш раман "Сокі цаліны" N 275 ці 357. Сёння, як, бадай, ніколі, літаратура вымагае думак. Кляймо цяжкіх, безвыходных дум на чале любога сустрэчнага беларуса: кожны нясе ў сабе груз бязрадасных уражанняў ад таго, што дзеецца навокал, і толькі слова, яркае, нечаканае, здольна вывесці нас з нашае ўнуранасці і самапаглыбленасці. Такое слова шукаеш паўсюль, не зважаючы на крыніцу, ці гэта акадэмічна-грунтоўнае "Полымя", ці гэта інтэлектуальна-вытанчаная "Крыніца", ці гэта наіўна-шчыры "Першацвет", ці гэта незнаёма-таямнічае "Калосьсе", якое час ад часу трапляе на вочы жыхару сталіцы.

Беларуская мастацкая думка, нягледзячы на не самыя лепшыя для яе часіны, не замерла ў сваім ходзе і, як балотны агеньчык, узнікае то тут то там, у самых нечаканых месцах. У газеце "Народная воля", дзе публікуе свае вершы Н. Гілевіч, радуючы палымяна-гнеўным, без перабольшання — купалаўскім словам, або В. Быкаў, здзіўляючы сваёй нядрэмнай думкай пра час і трапнасцю назіранняў над намі самімі, цяперашнімі, разгубленымі "музыкамі" і цельпукаватымі "народнымі мсціўцамі". У часопісе "Роднае слова", дзе час ад часу друкуюцца паэтычныя дыялогі сямейных тандэмаў: А. Емяльянава і А. Хатэнкі, Л. Рублеўскай і В. Шніпа, — яшчэ адна яскравая праява беларускага духу, які, сышоўшы з публічнай арэны, знаходзіць сябе ў вузкім хатнім асяродку, не трацячы пры гэтым нічога, бо тое, што гучыць на плошчы, добра ўспрымаецца і ў "літаратурным салоне". На старонцы "Нашай нівы", якая называецца "Грамафон", дзе знаходзіш новыя імёны і, здараецца, словы, радкі, якія нехта больш здольны і ўдачлівы прамаўляе за цябе і для цябе. Дасюль перажываю як асабістую страту знікненне літаратурна-філасофскага сшытка "ЗНО", дзе знаходзіла выхад філасофскае мысленне беларусаў, якое набірае ўвачавідкі глыбіню і маштабнасць еўрапейскай школы. Можа, часопіс "Фрагменты", а яшчэ "Беларускі гістарычны агляд", заменяць у нейкай ступені такую мабільную, чаканую і рэгулярную форму, як "сшытак". Іскры дасціпнага розуму прывабліваюць увагу ў "зацемках" Л. Галубовіча — яго шчырасць часам шакіруе, але, здаецца, Галубовічу гэта дазволена, найперш таму, што ён — Галубовіч, нязручны, калючы, уражаны абсурднасцю быцця на Зямлі, бадай, найбольш блізкі да рэалій нашага сённяшняга ілюзорнага існавання, калі невядома, сон гэта ці ява, праўда ці міраж, — усё, што з намі адбываецца. І раптам выяўляецца, што Я. Гучок, аўтар антыутопіі "Каб я быў прэзідэнтам", і я люляем у душы адны і тыя ж, ці дужа блізкія, лятункі аб свабодзе.

Мне смешна і дзіўна чуць, што нехта зноўку плануе шчыльна заняцца "кіраваннем літаратурай". Ну, як ты ўрэгулюеш А. Сыса, які то знікае надоўга, ажно здаецца, з'ехаў у эміграцыю, то з'яўляецца з вершамі на старонках "Народнай волі", ці В. Жыбуля, які выкарыстоўвае з бляскам такія рэдкія паэтычныя формы, што іх адшукаеш хіба толькі ў слоўніку літаратуразнаўчых тэрмінаў, ці М. Баярына, які "вынырвае" ў гамераўскіх гекзаметрах, ці Б. Пятровіча, які сваімі "Піліпікамі" дапячэ каго заўгодна. ці С. Яновіча, які па Польскім радыё маркотна-трывожна згадвае сваіх занядбаных землякоў, такіх падобных на нас, беларусаў, што жывуць у метраполіі, ці А. Пяткевіча, таленавітага празаіка, які раптам заявіў аб сабе ажно ў "Дружбе народов"?!.

А жывая думка, як крынічка, бруілася і ў куды больш змрочныя, чым наша сённяшняя, "начныя эпохі", пра што сведчаць дзённікавыя запісы Я. Брыля. Беларушчына жыла і ў далёкай Сібіры, куды патрапіў у пагоні за "сіняй птушкай" А. Масарэнка, аўтар дзённіка, урыўкі з якога друкуюцца ў "Першацвеце". Яна, беларушчына, раптам так знаёма, быццам з вуснаў аднавяскоўца, заяўляе аб сабе ў прыгожа выдадзеных кнігах з серыі Беларускага Інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку, дбайна падрыхтаваных і пракаментаваных Л. Юрэвічам. Беларусь, беларуская душа сёння плача і гаруе над сваёй доляй у аповесці В. Казько "Да сустрэчы...", у навеле А. Жука "Сны пра маму", у вершах-успамінах С. Грахоўскага і вершах-рэфлексіях Р. Барадуліна, у мемуарным эпасе У. Калесніка "Доўг памяці" і запісках Р. Гарэцкага "Арышт другі", у апавяданні І. Пташнікава "Француажанкі". Яна гневаецца і абураецца ў дзённікавых запісах А. Адамовіча, шукаючы выхаду ў вялікі свет людства. Яна кідае ўспамінамі ў "светлае мінулае", дзе шукае сябе і не знаходзіць "савецкі беларус", герой тузіна аповесцей І. Шамякіна. Яна здзекуецца з сябе з мазахісцкай жарсцю ў аповесцях Ю. Станкевіча і раптам знаходзіць выхад у светлым гумары В. Сёмухі, дзядзькі Базыля, які міжволі выклікае ў памяці многіх дзядзькоў, што прайшлі чарадой у беларускай літаратуры XIX і XX стст.

Вось і скажыце, што беларусы адвярнуліся ад роднага слова, калі яно выяўляе сёння такі цуд жывучасці, сваю дзівосную невычэрпнасць, глыбіню і яркасць! Хутка згасне памяць пра тых, хто цяпер першынствуе ў рэйтынгах, а слова пра гэтыя дні, зафіксаванае беларускімі паэтамі і празаікамі, застанецца, і на яго грунце будуць рабіцца нашымі нашчадкамі вывады, што адбывалася напрыканцы XX ст. Напісанае застанецца, а ненапісанае забудзецца, як яго і не было.

**Міхась ТЫЧЫНА**

ВІНШУЕМ!

## Васілю ТКАЧОВУ — 50!



Палеская зямля на таленты надзіва шчодрая... Пацвярджэнне таму і творчы лёс Васіля Ткачова. Было адарваўся ад яе: скончыўшы факультэт журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча, падаўся далёка ад Беларусі — служыў ваенным журналістам у Туркменіі. Ды праз некаторы час з арміяй развітаўся, а неўзабаве і з самім сонечным краем. У 1980 годзе вярнуўся ў Гомель (родам В. Ткачоў з вёскі Гута Рагачоўскага раёна), стаў "мірным" журналістам, а цяпер узначальвае абласное аддзяленне Саюза беларускіх пісьменнікаў. І ўвесь час самааддана служыць літаратуры, пачынаючы яшчэ з 1966 года, калі ў часопісе "Вясёлка" апублікаваў сваё першае апавяданне. На творчым рахунку В. Ткачова на сённяшні дзень некалькі кніг для дзяцей і дарослых, упэўнена адчувае ён сябе ў галіне сатыры і гумару, публіцыстыкі. А яшчэ добра вядомы як драматург, спектаклі па асобных п'есах яго ставіліся нават за межамі Беларусі.

1 студзеня Васілю Юр'евічу споўнілася 50 гадоў. З чым і віншуем яго, жадаючы далейшых жыццёвых і творчых поспехаў!

# "За Гомелем людзі ёсць..."

## ГЕРОІ ВАСІЛЯ ТКАЧОВА НА ЗОЛКУ НОВАЙ ЭПОХІ

Якое гучнае, невымоўна патэтычнае слова: эпоха... Пачуеш яго — і адразу на донцы душы пачынае па-здрадніцку варушыцца штосьці ведзьмакоўскае, накшталт бессмяротнага: "Быў час, быў век, была эпоха"... А між тым стасункі з ёю можа вызначыць немудрагелісты вершаваны радок, уратаваўшы нас ад д'ябальшчыны слоў, адолеўшых жыццё, сяброўствам іроніі з яе вялікасцю Гісторыяй, замацаваным у прастадушным пытанні "За Гомелем людзі ёсць?" з аднайменнага верша Анатоля Грачанікава, на якое паэт у даўнім сваім творы адказаў мужычкам-палешукам дасціпным зямляцкім жартам: "Ёсьцека, ды дробненькія ўсе..." Мінуў час — надышла **эпоха**? — і хоць гісторыя не дужа паблажліва паставілася да гомельцаў, але адно яна зрабіла напэўна: вярнула слову літаральны сэнс, уразіўшы непрыкметнасцю мяжы, падзяліўшай яе і штодзённасць. І слынныя землякі, імёнамі якіх упрыгожаны своеасаблівы гомельскі пантэон, па-майстэрску пабудаваны ў згаданым вершы А. Грачанікава, і звычайныя насельнікі чарнобыльскай пустыні перад гісторыяй — нароўні. Сам факт звычайнага чалавечага жыцця пакідае нас у ёй назаўсёды, бо, як кажа дзед-баламут з п'есы гамяльчаніна В. Ткачова, "дзяржавай яшчэ лягчэй кіраваць, чым бабамі ў Шкірдзюках" — забытай пасля Чарнобыля Богам і людзьмі вёсцы. Мабыць, не забытай нават, а той, што ў ліку першых прывеціла пад старымі стрэхамі эпоху, абвясціўшы філасофію штодзённасці формай зберажэння народа? Хіба сам аўтар-стваральнік "Шкірдзюкоў" не адчувае сёння гэты палон непазбежнасці ў юбілейным вымярэнні ўласнага жыцця, калі ўсё, здаецца, як заўсёды — акрамя неабходнасці ўзважыць набыткі і страты, не здрадзіўшы менавіта гэтаму "заўсёднаму", што вабіць мажлівасцю хоць трошачкі, на адзін крок наблізіцца да таямніцы заблытаных пуцявінаў Беларусі?

Той, хто чытаў творы В. Ткачова (найперш драматычныя), не мог не звярнуць увагу на галерэю гэткіх беларускіх Шчукароў, якія выклікаюць безумоўную сімпатыю аўтара: няхай то дзед Грышка ("на ім нямецкі шынель, камандзірская фуражка з зорачкамі, на нагах — лапці") з народнай драмы "Сівы бусел" ці памянёны дзед Квач, што даведаўшыся па неўпапад балбатліваму радыё пра з'яўленне ў суседніх мясцінах немцаў (вядома ж, з гуманітарным грузам), хуценька ладзіць з бабамі абарону родных Шкірдзюкоў — "як у вайну" ("Шкірдзюкі займаюць абарону"), альбо нават трагічна-несуцешны Ігнат з трагікамедыі "Шаройка ў блакадзе". Прынамсі, усё можна было б растлумачыць відавочнай прыхільнасцю пісьменніка да пэўнай літаратурнай традыцыі, калі б яна сама парадаксальным чынам не пераасэнсоўвалася ў сучасным рускім літаратуразнаўстве і ў постаці вечнага шолахаўскага Дзеда не бачыўся апошні паклон рускай літаратуры "маленькаму чалавеку", над лёсам якога яна аблівалася слязьмі на працягу стагоддзя, а потым, у ідэалагічна бездакорным рамане савецкага класіка, перажывала яго трагедыю ўжо як фарс, весела развітваючыся з мінулым.

Аднак паспяшацца нам на гэты развітальны паклон было б недарэчнай памылкай, бо гэты чалавек (дарма што "дробненькі") ізноў выходзіць на авансцэну гісторыі. І калі В. Акудовіч у набалелым лімаўскім артыкуле ўзіраецца ў абсягі "Архіпелага Беларусь", разумеючы пад ім ТЭКСТ як скарбонку нацыянальнай свядомасці, сховішча гістарычнай памяці, мы мусім прызнаць: беларуская будучыня належыць цяпер "пазатэкставай" Беларусі, уцягваючы ў гэтую трагічную супярэчнасць саму літаратуру (як тэкст). І тут ужо замілаванай гутаркай на прызбе з чарговым гаваркім "шчукаром" не абысціся. Зваротны эстэтычны рух, набіраючы хаду, выносіць шукальніка літаратурных прыгод туды, дзе мастацкі інтарэс мяжуе ледзь не з этнаграфічным, з якога, уласна кажучы, новая беларуская літаратура і пачыналася, сцвярджаючы фізічнае існаванне беларуса так, як спрабуе разабрацца ў поцемках душы ягонага сабрата-нашчадка, што апынуўся па-за нейкім ідэальным усведамленнем самога сябе, сучасны літаратар. Амаль непазбежна ён вымушаны прайсці сцяжынамі, якія скрупулёзна пазначыў А. Яскевіч: ад "традыцыйнага па-фабульнага сюжэтабудавання", праз пераходныя формы "народнай кнігі", да "ўскладненага драматычнага мадэлявання апавядальнай прасторы і часу", назапасіўшы на гэтым шляху ўласцівы, на думку А. Яскевіча, нованацыянальным літаратурам "першасны вопыт народнай эстэтыкі".

Сапраўды, апавяданні В. Ткачова нагадваюць замалёўкі з натуры (часам нават друкуюцца пад рубрыкай "Нявыдуманыя гісторыі" ў абласной газеце "Гомельская праўда"). Аднак яны мала падобныя на традыцыйныя празаічныя абразкі: не збіраюцца апавяданні ў "жменю сонечных промняў", няма ў іх лірычнай усцешанасці — часцей пануе безнадзейнасць факта, як у апавяданні "Мех бульбы" пра сарамліва-няўдалую спробу вясковай жанчыны зрабіць маленькі, хатні "бізнес" — прадаць у горадзе бульбу (усё роўна нічога не атрымаецца, і мех украдуць). Тым не менш, проза В. Ткачова — не звычайнае бытапісальніцтва. Ягоны "маленькі чалавек" не столькі апісаны, выпісаны, колькі **ўбачаны**. Як? А гэта ўжо ёсць адметнасць уласна літаратуры, што не пагарджае набыткам народнай эстэтыкі.

Героі і сітуацыі В. Ткачова ў нечым "архетыпічныя". Яны выяўляюць сваю залежнасць ад форм народнай свядомасці. Невыпадкова сюжэт у ткачоўскіх апавяданнях, здараецца, губляе выразныя абрысы, страчвае энергію невядомасці, прапануючы чытачу разам з пытаннямі і адказы на іх. Хіба можа хто-небудзь мець іншае спадзяванне на тое, чым скончыцца дапамога шаноўнай цешчы ад "вучонага зяця" ў аднайменнай гумарэсцы: і гэтая каса яму не да спадобы, і тая — не "гэткая". Фінал прадвызначаны ад пачатку: збег гарадскі працаўнік разам з абяцанкамі, а "Маруся ж чакае цяпер зяця капаць бульбу". Вартасць твора ў такім разе надае не паведамленне (яго змест вядомы), а прынцып яго арганізацыі, на якім калісь засяроджваў увагу Ю. Лотман, аналізуючы так званую "празмернасць" тэксту, пабудаванага на грунце міфатворчай свядомасці, калі вынік зададзены рытуалам. І бязлітасны скепсіс С. Алексіевіч, якая перасцерагае літаратуру ад заўсёднай памылкі ператварэння народа ў нейкую міфічную сутнасць, з чаго вынікае яе заклік да працяглай, марнай асветніцкай працы (дарэчы, падтрыманы далёка не ўсімі), надзіва не супярэчыць "архетыпічным" экзерсісам у эстэтыцы сучаснай прозы, бо яшчэ Вас.

(Працяг на стар. 12)

## Услед за Скарынам — Купала

Творчасць народнага песняра Янкі Купалы — гэта ў першую чаргу яго выдатная паэзія і драматургія, лепшыя ўзоры якой сваёй дасканаласцю паспаборнічаюць з лепшымі дасягненнямі сусветнай літаратуры. Але разам з тым — гэта і багатая беларускамоўная спадчына. Каб лепей спазнаць Купалу, трэба добра ведаць і яго мову — па-свойму адметную, непаўторную. Таму і вырашана пачаць выпуск "Слоўніка мовы Купалы", у якім будзе зарэгістравана апелятыўная, анамастычная і тапанімічная лексіка песняра, прыведзена частотнасць яе ўжывання, вызначаны семантычны аб'ём кожнага слова, а таксама зафіксаваны ўсе яго формы. У якасці ілюстрацыйнага матэрыялу будуць пэўныя цытаты з твораў. Выданне разлічана на 8 тамоў, а гэта яшчэ адно пацвярджэнне таму, наколькі багата моўная спадчына Купалы. У пярэдадзень Новага года ў выдавецтве "Беларуская навука" пабачыў свет першы том. Дагэтуль, як вядома, у нашай краіне выпускаўся "Слоўнік мовы Скарыны". Спачатку ён выйшаў у двух тамах, а некалькі гадоў назад з'явіўся і дадатковы, трэці...

## Шчырая споведзь

Зборнік паэзіі Ірыны Дарафейчук "Сцяблінка на лязе" стаў чарговай, дзевятай за сёлетні год кніжкай у "Бібліятэцы часопіса "Маладосць". Маладая паэтэса нарадзілася ў 1969 годзе на Брэстчыне, скончыла Віцебскі дзяржаўны педагагічны інстытут і лёс свой звязала са старажытным Полацкам, дзе жыве і выкладае інфарматыку ў Полацкай нацыянальнай гімназіі. Выступала з вершамі ў мясцовым і рэспубліканскім друку, у тым ліку і на старонках "Маладосці".

Творы І. Дарафейчук, прадстаўленыя ў гэтым зборніку, яшчэ адно сведчанне, што сапраўдны талент, нягледзячы на тое, якая прафесія ў чалавека, абавязкова раскрыецца. Асабліва прываблівають тыя вершы паэтэсы, у якіх лірычная гераіня паўстае чалавекам адкрытым. Яна прагне даверу і жадае споведзі. І яна ж неабыякавая да таго, як жыць і дзеля чаго жыць.

Дастаткова пазнаёміцца з вершам "xxxА я — сцяблінка на лязе твайго нажа...", каб упэўніцца, што за перажываннямі лірычнай гераіні І. Дарафейчук не толькі асабістае (нават не столькі асабістае), колькі характэрнае для многіх, у каго існуе пастаянная спрэчка ў душы. А гэта найчасцей адбываецца тады, калі чалавек надзіва сумленны і не ўмее хаваць свае пачуцці:

*А я — сцяблінка на лязе твайго нажа:*
*Ты не заўважаеш глыбіні маіх вачэй.*
*Па жылах па маіх зусім не кроў цячэ, —*
*Цячэ каханне, горыч і нясцерпны жаль.*

І, насуперак усяму, гучыць упэўненасць, што шчасце абавязкова магчыма, нават калі яно і не ўзаемнае:

*Усё роўна. Расцвіту, нібы ўбяруўся ў бель.*
*Ну вось ён і прыйшоў, апошні зорны час, —*
*Я прыхінуся да ляза твайго нажа...*
*Ну, што ж ты? Рэж.*
*Салодка гінуць для цябе...*

А яшчэ лірычная гераіня І. Дарафейчук знаходзіцца не толькі ў часе, у якім жыве. Яна — і ў часе мінулым, у тым, куды вабіць яе неспакойную, неўтаймаваную душу, у чым пераконвае верш "Полацк".

А. М.

## "Мора кветак майго кахання..."

У Баранавічах у Доме мастацтваў прайшла творчая вечарына мясцовай паэткі Людмілы Шувалавай "...Мора кветак майго кахання...", якую праводзіла літаратурна-музычная гасцёўня "Крыніца". На ёй былі яркія вершы, агнявыя песні, душэўныя словы і шмат чаго іншага і запамінальнага, што вельмі спалучалася з імем нашай паэткі. Я вынес з вечарыны Л.Шувалавай і яе паплечнікаў-сяброў добры настрой і вось гэтыя шчымлівыя жаночыя радкі:

*Не магу даравадь, не магу!*
*Ты пакрыўдзіў мяне, ты мне здрадзіў!*
*Але, як засумую, — бягу*
*Да чарэшанькі ў нашым садзе...*

Творчая сябрына-справаздача паэткі была прысвечана яе 50-годдзю.

М.МАЛІНОЎСКІ

ПАЭЗІЯ

Рыгор БАРАДУЛІН



# Да цябе душой і думкамі хінуся

## Вяртаюся...

Ішоў я, ішоў я
З паўначы з карчмы.
Знайшоў я, знайшоў я
Салаўя ў карчы...

*З вушацкае песні*

*Пад досвітак*
*Вяртаюся з карчмы,*
*З карчмы жыцця*
*Ні п'яны, ні цвярозы.*
*Яшчэ ў душы*
*Віюць гняздзечка крозы,*
*А ў галаве*
*Не ціщацца грамы.*

*На панібрата*
*Піў са мною час.*
*Плыла вясёла чарачка,*
*Як хмарка.*
*І доля —*
*Захмялелая карчмарка*
*Мне налівала ўкоптур*
*І няраз.*

*Было, што зблізку*
*Бачыў салаўя,*
*Ды болей дзён*
*Пражыў пад крумкачамі.*
*Не дасыпалі*
*Сны мае начамі,*
*Каб у карчме*
*На ўсё забыўся я...*

## З далані

*Жаўранак абнашчыцца расінкай,*
*Падаллю насыціцца крумкач.*
*Крыўдаю,*
*Як чэрстваю скарынкай,*
*Папярхнецца сірацінны плач.*

*Неба корміць жаўранка*
*З далоні.*
*Крумкача гадуе дол глухі.*
*Карані*
*У цемрадзі ў палоне,*
*У нявoлі ў яснасці*
*Вярхі.*

*І не чуе крумкату сырога*
*Пошчак,*
*Як вузельчык вышыні.*
*Жаўранак —*
*Іскрынка ўсмешкі Бога.*
*А крумкач*
*Не выбіраў радні.*

## Пачынае часцей...

*Думаецца пачынае часцей*
*Пра той,*
*У якім мушу атайбавацца,*
*Свет,*
*Дзе спачне ўжо*
*Зямная праца.*
*Вярнуся я з гэтага,*
*Як з гасцей.*

*Ці там чакаюць мяне*
*Свае,*
*Якіх застаць мне не давялося,*
*Ці там наліваецца жалем*
*Калоссе*
*І птушка памяці гнёзды ўе?*

*Ці там гэты кут,*
*Дзе няма пакут,*
*Дзе не прыручана воля*
*Цярпеннем?*

*Да зоркі лёсу*
*Пазычаным ценем*
*Прывязаны,*
*Я пасуся тут...*

## Пра што думае камень

*Неба кідае думкі не на абразу,*
*Ды ад жаху згарэць*
*У зямной мітусні*
*Камянеюць нябесныя думкі*
*Адразу,*
*Перакідваючыся ў камяні.*

*І, задумаўшыся,*
*Не варухнуцца вякамі*
*Камяні —*
*Незразуметыя мысляры.*
*Іх маланкі*
*Гарачымі грэюць рукамі*
*І напрошваецца туман*
*У сябры.*

*Ім спакою стае,*
*Як лагоднага моху.*
*Толькі более*
*Іхнай маўклівай радні.*

*На зямлі,*
*Што як падчарка небава,*
*Могуць*
*Вольна думаць*
*Бадай што адны камяні...*

## Час выпаўзання змей

*Ведаюць час, калі*
*Выпаўзці з цемры варта,*
*Зябкія вугалі,*
*Страху сляпая варта.*

*Ведаюць, як і дзе*
*Выпусціць лепей джала.*
*Лютасць змяю вядзе,*
*Смеласці трэба мала.*

*Толькі абвіцца ўмей*
*Шчыра каля спажывы.*
*Час выпаўзання змей*
*Ціхі,*
*Таму й жахлівы.*

## Варава

*Натоўп гарачы на расправу*
*На помач не падасць і кста,*
*Сцяною стане за Вараву*
*І падпіхне на крыж Хрыста.*

*Натоўпу боль чужы нясвежы,*
*Для цёмнай злосці*
*Мала джал.*
*Хацежы*
*Замінаюць межы.*
*Руйнуе ўсё асляплы шал.*

*Чым болей глотак,*
*Болей права.*
*З грахамі*
*Доўга едзе воз.*
*У кожным з нас*
*Жыве Варава,*
*І рэдкім госцем —*
*Пан Хрыстос.*

## У перамоўклым садзе

Памяці Алеся Адамовіча

*У перамоўклым садзе ў разварушшы*
*Спадаюць яблыкі,*
*Нібы гады.*
*Ці, можа, гэта праведныя душы*
*Свае шукаюць босыя сляды.*

*Каму распавядзе*
*Глухая градка,*
*Як у зямлі,*
*Паслушлівай лясам,*
*Нібы ў халодным яблыку*
*Зярнятка,*
*Спіць гаспадар.*
*І сад старэе сам...*

## Быў яблык

*У першасвеце*
*На пачатку самым*
*З далоні шчырасці*
*Піла пчала.*
*Быў райскі сад*
*І быў я ў ім Адамам,*
*Ты, адпаведна, Еваю была.*

*Меў смеласць страх*
*І сорам быў пры сіле.*
*Быў дзень як год*
*І ноч як дзень была.*
*Мы забароны яблык*
*Надкусілі*
*І падаліся ў госці*
*Да святла.*

*Аціхлася лісцёвая залева,*
*Сцямнелі*
*Пад вачмі віроў кругі.*
*Цяпер я не Адам*
*І ты не Ева.*
*А доўг расце.*
*Быў яблык дарагі...*

## Напарніца

*Самота — напарніца той,*
*Што з касой*
*Іржавая ходзіць па свеце.*
*Самота*
*Прыкінуцца ўмее лісой*
*І ўкінуцца ласкай у клеці.*

*У клеці,*
*Дзе радасць схавала спакой,*
*Самота пакліча трывогу,*
*Да страху*
*Прытуліцца цёплай шчакой,*
*Надзеі пакажа дарогу.*

*Каб высушыць пот свой*
*Прытомлены мог,*
*На тое зямля і сырая.*
*У свет выпраўляе самотнага*
*Бог,*
*Самотнага і забірае.*

## Віншаванка

Ларысе Горцавай

*Хай маладосць пілнуе Вас!*
*Да твару прыгажосць*
*Актрысе.*
*Ад рэўнасці старэе час,*
*Што Вы яму не аддаліся...*

## Нескончоны

*Пацвердзяць чарадзей і маг,*
*Чаго каштуюць*
*Кіў і мах.*
*І скажа блазен,*
*Змоўчыць мім,*
*Як цяжка быць*
*Сабой самім.*
*Ён нескончоны,*
*Гэты бой*
*Парой любой*
*З самім сабой...*

## Паклоны б'е сякера

*Чаўнар — вядзьмар*
*Да патаемных змовін*
*Вады з зямлёй*
*Далучаны адзін.*
*Таму й рака*
*Ягоны лашчыць човен*
*Халодная ад крыгаломных ксцін.*

*І рэбры гне —*
*Каб выгінацца рэбрам —*

*З сасны,*
*Як у Адама з рабрыны.*
*Каб човен мог луской —*
*Дарэмным срэбрам*
*Сплаціць даўгі*
*Паганскай даўніны.*

*Як валачомец*
*З цёмных валачомін,*
*Вяртаецца са стомаю ў касцях*
*Прасмалены смалой сутоння*
*Човен*
*Дамоў,*
*За дзень наплыўшыся ў гасцях.*

*У чоўна з берагам*
*Не дрэмле спрэчка,*
*Чыя рака,*
*Каго яна вязе.*
*Як куфар — човен.*
*Не хапае вечка.*
*Быць вечкам аблачыне*
*Балазе.*

*Паклоны чаўнароўская сякера*
*Б'е дрэву*
*За штодзённыя грахі.*
*Яшчэ паганская спрые вера,*
*Каб човен выплываў*
*З вады сухі.*

*Рака спіною неба падпірае.*
*Пілнуюць хітры бераг*
*Чараты.*
*Украсці вёслы хоча*
*Ноч старая.*
*І страхі шчэраць*
*Сонныя раты...*

## *Чым далей...*

*Чым далей,*
*Тым бліжэй да Цябе*
*Думкамі і душой хінуся.*
*Рукі зведзеныя ў мальбе*
*Хочуць працістаяць спакусе.*

*Чым далей,*
*Тым далей ад сябе,*
*Ад шчаслівага й маладога.*
*Рукі*
*Рупяцца ў даўняй сяўбе —*
*Густа ўсходзіць*
*Адна трывога.*

*І, прымаючы спёку й золь,*
*Жарсць цярноўніка й цноту*
*Вішні,*
*Я прашу:*
*Затрымацца дазволь*
*Мне на гэтай зямлі,*
*Усявышні...*

## *Да слова*

*Да слова бруд не прыстае,*
*Бо слова незямнога кшталту.*
*Яму нябеснасці стае,*
*Каб быць*
*Непадуладным гвалту.*

*Ствараем слова*
*Ці яно*
*Нас, недаствораных,*
*Стварае.*
*Так золь*
*Дабельвае радно,*
*І гоіць боль*
*Зямля сырая.*

*І колькі часу*
*Не сплыло б,*
*Назваца хоча ўсё*
*Нанова.*
*І думка*
*Свой гарачы лоб*
*Халодзіць даланёю слова...*

## *Хаця б...*

*Калі мая трывога спала,*
*Калі калоссе налілося*
*Тугой?*
*Сказаць я не бяруся.*
*Як нарадзіцца не прыпала,*
*Хаця б памерці давялося*
*У беларускай Беларусі...*

ПРОЗА

Сяргей АСТРАЎЦОЎ

# УНДЭРВУД



"СА-МЕЛ" — прачытаў Печкуроў, вайсковец з чырванюткай літарай "Т" абапал на плячах. Старшына, значыцца. Бо такія ў яго наплечнікі. Памарудзіў, трымаючы ў левай руцэ трафейную папяросніцу, але схаваў у кішэню. Думаў пачаставаць шафёра, ды пашкадаваў. Уталопіўся ўперад, уцягнуў з задавальненнем углыб сябе саладжавы дым. Другі фронт. "Самел".

Шафёр незаўважна пацягнуў носам дым. Асалода! Гэта табе не махорка. Сапраўдны тытунь. А-ме-рыка. Не падыміш сам, дык хоць панюхаеш. Ён пабойваўся пасажыра. Ведаў: старшына з "асабістаў". (Той гэтак прадставіўся дзеля салíднасці).

А дарога, дарога якая! Майстры былі фрыцы будаваць. Ну, ды цяпер не давядзецца больш. Наша Усходняя Прусія. Назвы якія: Пілаў, Кёнігсберг, Тыльзіт. Чыста нямецкія. Пераназавуць.Конча.

— Ты адкуль будзеш, а? — нарэшце парушыў старшына зацяглае маўчанне.

— З-пад Смаленска, — пачырванеў вушамі салдацік.

— А я, знай, з Беларусіі. Да Мінска, сталіцы, значыць, рукой падаць. На танцы па нядзелях з хлопцамі хадзілі. Да гарадскіх дзевак. Пу-у-у. — Ён выдзьмуў з паважнасцю дым. — Наравістыя дужа. Але толькі да пары-часу. Мужык дзеравенскі, ён за гарадскога дужэйшы. Ха. А бабе што трэба? Сам разумееш, — не стаў чамусьці паглыбляцца ў падрабязнасці пасажыр.

Маладзенькі шафёр зноў міжволі пачырванеў.

Салдата хлебам не кармі, дай пра баб языком памянціць, павыхваляцца: каго, колькі і якім чынам залатвіў. Быццам успомніўшы аб гэтым і адчуўшы, што можа пахіснуцца яго аўтарытэт уваччу гэтага "зялёнкі", старшына неахвотна, як бы рабіў ласку, зноў сказаў:

— Але самыя мамзэлі — немкі. Таксама давялося паспрабаваць. Спецыялісткі. Не тое што наша баба. Немкі — уга!.. А зрэшты, я на правах пераможцы пакарыстаўся. Можа ж рускі старшына адпачыць пасля крывавага бою, а? Плады перамогі, так сказаць.

Шафёр спраўна хітнуў галавою.

Гэтым разам старшына адшкадаваў цыгарэту суседу. "Думаў, ты не курыш", — растлумачыў сваю пачатковую скнарыстасць. "Ды я нічога, толькі часам баўлюся", — чырванеючы, нялоўка выняў з-пад гумкі цыгарэціну маладзён. Прытрымліваючы абаранак, стаў шоргаць запалкай.

Старшына меў запальнічку. Трафейную. У кодабе трэсліся, таксама трафейныя, дыхтоўны чамадан, насценнік у драўляным футарале, з жоўтым, нібы залатым, цыферблатам, транты і пішучая машынка. Апошнюю ён узяў невядома навошта. Ён ніколі нічога, апроч "трохкутнічкаў" дахаты, не пісаў, а друкаваць наогул не ўмеў. Можа, таму і прыхапіў. Надта ж спадабалася. У вёсцы ні ў кога не было друкаркі, нават у сельсавеце. А ў яго, у Печкурова, будзе.

Салдат без трафеяў не салдат. А старшына пагатоў.

Калі развітваліся на чыгуначнай станцыі ў Гродне, салдацік зашчыраваў: "Я, таварыш старшына, усё хацеў сказаць, што мы ж з вамі амаль землякі. Смаленск, калі ведаеце, быў адным часам сталіцай Беларусі".

Печкуроў здранцвеў. Закрыў рот. Ляснуў дзверцамі кабіны. Не сказаў нічога. Мацюкнуўся сам сабе.

Спачатку Печкуроў наведаў камендатуру. Даведаўся аб адпраўленні цягніка. Пад'еў амерыканскай тушонкі. Заставаўся яшчэ час. Печкуроў задумаўся. Пайшоў да століка, дзе запаўняліся тэлеграмныя бланкі, і на адвароце напісаў пра салдаціка-шафёра, называючы таго "беларускім нацыяналістам", які хоча "адарваць Смаленск ад мацеры-Расіі". Задаволены, ён яшчэ раз зайшоў у камендатуру. Пакурыўшы на пероне, упіхнуў транты ў вагон цягніка і спрытна ўзбег па прыступках сам.

●

— Гер штурмбанфюрэр, маёй думкі, канечне, не пытаюць, — маладзён на хвілю спыніўся перакладаць машыністцы тэкст. — Але мне здаецца, што варта было б друкаваць гэта не па-расейску, а на беларускай мове. Бандыты ж у лесе тутэйшыя.

— Гер Макарэвіч, — афіцэр крыху іранічна пазіраў на перакладчыка. — Праўдзівы беларус, мне здаецца, яшчэ не скеміў, з кім яму змагацца. Ён занадта марудлівы. Каб не Масква, ніякіх бы партызанаў тут не было. Не забывайце, што іхнія лістоўкі і газеты — усе друкаваныя па-руску, хоць разлічаны на мясцовае насельніцтва. Беларускае і польскае. Адзін з бальшавіцкіх парадоксаў. Але мы таксама мусім трымацца правілаў гульні, нават калі яны бязглуздыя.

Лістоўку адбілі ў друкарні на Адольф Гітлер-штрасэ і з вайсковых летакоў раскідалі над ляснымі партызанскімі лагерамі. Яе тэкст вельмі абурыў салдатаў, апроч некалькіх здраднікаў, якія паверылі ў тое, што немцы ўзялі Маскву, і якія не захацелі з усімі разам мерзці ў лесе.

Яна вісіць сёння ў Музеі вайны ў сталіцы. Непадалёк падпольшчыцкага радыёперадавальніка ў чамаданчыку і вялізных лапцяў-пасталоў, у якіх нямецкія вартавыя баранілі свае ногі ад маразоў. Кегль ды ачко машынкі няцяжка пазнаць. Скошаны хвосцік у "р", а галоўнае — адметна пашкоджанае "ы". Ні з чым не зблытаеш. Яна. Ундэрвуд з амаль сцёртым залатым усцяж карэткі надпісам: Па-над вальком. Трафейная.

●

Печкурова спаткалі ў родным калгасе належным чынам. Нават зарганізавалі ўвечары ў нядзелю ў клубе ўрачыстую сустрэчу. З духавым аркестрам, транспарантамі над сцэнай, цёплай прамовай. "Старшына. Медаль. Смерш. Усходняя Прусія", — шапталіся аднавяскоўцы.

Прызначылі адразу парторгам. Пайшоў угору. У палітаддзел МТС. Таксама паказаў сябе з лепшага боку. Газету пачалі сваю выпускаць. Эмтэсаўскую. Вось калі спатрэбіўся і трафей, запас бяды не чыніць. Жонка ачысціла ад пылу (ажаніўся). Пятровіч (гэтак яго цяпер усе чыста называлі) рашуча ўзяўся рэдагаваць. Не аднаму ж Богу гаршкі апякаць! Увогуле, галоўнае правільна сказаць. А ў яго што ні слова — то і цытата. "Краткий курс ВКП(б)" ведаў назубок.

●

З ім Акінчыц пазнаёміўся ў войску. Печкуроў ужо быў "дзедам" Савецкай Арміі, але не горшым. Спяваў у курылцы пад гітару дэмбельскія песенькі ды любіў выпіць, не грэбуючы нічым. Калі ён жлукціў адэкалон, Акінчыц моцна дзівіўся, бо з рота Печкурова пахла пасля гэтага натуральным шампунем. Апошнія паўгода ён нічым, апроч клейкі фатаграфій у дэмбельскі альбом, не займаўся. Акінчыц спаў над ім, на другім ярусе. Печкуроў часам пасля адбою ўпіраўся нагой у сетку ягонага ложка і зусім нязлосна прасіў: "Землячок, скажы дзедушку "дабранач". Пасля паўзы, перамагаючы грэблівасць, Акінчыц нягучна казаў: "Дембель стал на день короче, спи, старик, спокойной ночи..." — "Спасибо, сынок".

Чалавек быў з Печкурова ніякі. Але спяваў ён добра, тужліва неяк, з сэрцам. Слухаючы яго, Акінчыц аднойчы пайшоў у ленпакой, узяў аркуш і стаў пісаць. Свой першы допіс у "Часовой Родины", армейскую газетку. Пра тое, як у нядзелю салдаты заняты кожны сваёй справай: адзін піша ліст каханай, другі рыхтуецца да паступлення ў інстытут, іншыя падшываюць бялюткія каўнерыкі або шаруюць ваксай боты, а яфрэйтар Печкуроў "задушевно поет песни своей далекой Родины Белоруссии". Допіс надрукавалі. Радасць для Акінчыца. Хоць усё ў напісаным, акрэм нудлівага дажджу за акном, было штучна-ідылічным. Зацішша ў часе бясконцае вайны паміж "дзядамі" і астатнімі. Першыя, дарэчы, паблажліва ахрысцілі Акінчыца адразу "пісьменнікам". На камсамольскім ротным сходзе пахваліў сам нампаліт маёр Бандылка, прапанаваў, адазваўшы ўбок, уступаць у партыю.

●

Называлася эмтэсаўская газетка "Сталінскі прызыў", хоць самому Печкурову найбольш падабаліся "Жалезныя коні" — паводле славутае, улюбёнае яго песні, але ён прамаўчаў, калі галасавалі на агульным сходзе МТС. Аднадушна. "Сталінскі прызыў".

У рэдакцыі — парткамаўскім пакойчыку — яны абмывалі дазвольную паперу на друкаванне газеткі, што прыйшла з самае Масквы. Пад столлю цьмяна свяціла лямпачка на скручаным жгутам падвойным шнуры. Салёныя гуркі, камса, "Маскоўская", паўбохана жытняга хлеба. Печкуроў, як герой дня, вёў рэй. Гарэлка прыемна цяпліла грудзі.

— Мужыкі, мужыкі! (...) вашу маць! — ён ляснуў сябе па патыліцы даланёй, ускочыў з месца і знік за дзвярыма.

Яго цярпліва чакалі, тужліва пазіраючы на апошнюю, недапітую паўлітэрку. Размова без парторга не клеілася.

Ён уваліўся з чорнае зяпы двара. Наставіў ботамі брудных плямаў і ўзграмаздзіў, перакуляючы шклянкі, на стол пішучую машынку. Твары бяседнікаў зрабіліся непаразумелымі.

— Ву-уф! (...)! А я-та думаў, мужыкі, чаму шрыфт у яе рускі. Машынка ж, бляха-муха, трафейная. Думаў-думаў.

— Можа, давай спачатку вып'ем, Пятровіч.

— Налівай, хлопцы.

— Гэта ж я, выходзіць, назад прывёз ад фрыцаў нашае дабро. Выходзіць так. З рускім шрыфтам. Зрабаванае. — Ён задумаўся. Вочы былі п'яна-ўтрапёныя.

Перакуліўшы ў сябе шклянку, ён адхіліў руку з гуркам, працягнутым яму, аблапіў ундэрвуд і паклаў на шэрагі літарных гузікаў галаву.

Неўзабаве ён ужо спаў.

●

Спаткаліся яны зноў выпадкова. Акінчыц вывучаў журналістыку ў сталічным універсітэце. Стаў надведваць рэдакцыі. Спатрэбілася пішучая машынка. Спачатку ён нейк абыходзіўся без яе, а потым патрэба зрабілася пільнай. У пазычальні адшукаць машынку не ўдалося. Цэлы горад аб'ездзіў. У крамах яны былі, але тандэтную "Москву", на якую ён меў грошы, набываць не раілі. Звярнуцца да машыністкі таксама не выпадала: задорага, дый паказваць на чужыя вочы напісанае ён не хацеў. Копія магла апынуцца ў адной установе раней, чымсьці ў рэдакцыі.

Ён сядзеў у пэнэу (піўная насупраць універсітэта) і цадзіў піва. У плошчу зроку трапіў нейкі твар. У профіль. Штосьці нібы знаёмае. Ужо ўзгадваючы, ён апусціў вочы. Не паспеў. Той, быццам адчуўшы Акінчыцаў погляд, павярнуў да яго галаву.

— Землячок! Не пазнаеш? Гэта ж ты, Акінчыц?!

Яны сядзелі разам з сябрукамі Печкурова. Малапрывабныя пысы. Дапівалі піва. Размова не атрымлівалася. Печкуроў нешта пачаў настальгічна вярзці пра войска, але Акінчыц адказваў, не хаваючы нежадання. Дый што ўспамінаць... "Спи, старик, спокойный ночи?"

Пад вечар Печкуроў прадаў яму бацькаў ундэрвуд за пяць пляшак гарэлкі (яна тады яшчэ таннай была, па 4 руб. 12 кап.).

Акінчыц вёз вялікую цяжкую друкарку ў найманы на ўскраіне пакойчык і няверыўся ва ўдачы. "Гэта ж трэба, так пашанцавала!" Каб той Пячкур не паленаваўся, запраторыў бы яе ў "Антыквар", дык адхапіў бы праўдзівыя грошы. Але ж тамака іх чакаць трэба, а яму менавіта сёння карцела напіцца. Бо настрой такі. "Што ні кажы, а пашанцавала".

●

Перадавы, як у вялікіх газетах, артыкул. Шматслоўны і пра нішто. Перадрук з "Калгаснай праўды". Зводка аб

(Працяг на стар. 14—15)

ЛіМ ЧАСАПІС

## Відушчы талент Асімовіча

**Мінская фірма "Каўчэг" зноў парадавала фанатаў класічнай гітары. Выйшла другая аўдыёкасета з серыі "Беларуская гітарная музыка". На гэты раз — сольны альбом Дзяніса Асімовіча, маладога музыканта з Гродна, лаўрэата міжнародных конкурсаў, якога лёс пазбавіў зроку, але... Але, як прызнаўся сам Дзяніс, — "дзякуй Богу за дадзены талент і натхненне".**

**"У мяне была магчымасць наглядаць за мастацкім развіццём Дзяніса Асімовіча, і з радасцю і задавальненнем магу адзначыць, што мне выпаў гонар сустрэць аднаго з самых выразных талентаў у маёй педагагічнай працы", — напісаў сусветнавядомы гітарыст, прафесар Акадэміі музычнага і тэатральнага мастацтва ў Празе Штэпан Рак.**

**Так, меламанам выпаў гонар набыць касету і слухаць ігру аднаго з самых выразных талентў у музычным свеце. На магнітнай стужцы занатаваны творы І. С. Баха, Лозі, П'яцолы, Віла-Лобаса, Рака, "Элегія" самога Дзяніса Асімовіча... Толькі адзінаццаць п'ес з ужо даволі ёмістага і разнастайнага рэпертуару выканаўцы, нарыс пра якога, дарэчы, друкаваўся ў адным з леташніх нумароў "ЛіМа".**

**У нашых не надта, скажам так, цывілізаваных умовах, калі пры адсутнасці дзяржаўнай фірмы грамзапісу музыканты, каб занатаваць вынік сваёй творчай працы на касеце або кампактдыску, мусяць звяртацца ў прыватныя студыі ці спадзявацца на падтрымку замежных партнёраў, — у такіх умовах кожная навінка "Каўчэга" з узорамі беларускага мастацтва ўспрымаецца як сапраўдная падзея.**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

## Галасы будучыні

**Днямі ў Мінску прайшоў ужо другі Форум творчай моладзі "XXI стагоддзе — музыка надзей". Пачуць галасы таленавітых юных творцаў, якія будуць вызначаць заўтрашні дзень Беларусі ў музыцы, выяўленчым мастацтве, у літаратуры, у культурнай палітыцы цалкам; падтрымаць, паклапаціцца пра ўмовы для іх гарманічнага развіцця... З гэтай мэтай і наладзілі арганізатары форуму агледзіны творчасці зусім яшчэ маладых выканаўцаў і мастакоў (выступленні на сцэне Беларускай дзяржаўнай філармоніі, вернісаж у фае), праблемы выхавання якіх абмяркоўваліся падчас творчай дыскусіі ў Саюзе кампазітараў. Вынікі працы форуму, мяркуем, будуць абгавораны і на старонках нашага тыднёвіка, які стала падтрымлівае сваёй увагай і добрым словам маладых беларускіх творцаў.**

**Н.К.**

## Сем стыпендыятаў



**Стыпендыятамі Фонду Уладзіміра Співакова, скрыпача, мастацкага кіраўніка аркестра "Віртуозы Масквы", сталі сем беларускіх музыкантаў. Цырымонія ўручэння адбылася ў Магілёве: стыпендыі ўручыў прадстаўнік фонду на Беларусі — дырэктар абласной філармоніі кампазітар Уладзімір Браілоўскі.**

*На здымку: студэнтка Беларускай акадэміі музыкі Ганна Шыбаева — адна са стыпендыятаў.*

*Фота Мікалая ЦІТОВА, БЕЛТА*

# "Травіята" ў люстэрку размоў

### АД НАТХНЕННЯ

— Гэтая даўняя гісторыя звязана са мною. Бо калі б не я, дык ці нарадзіў бы калісьці Дзюма-бацька Дзюма-сына, а стары Вердзі сына Джузэпэ, Дзюма-сын — "Даму з камеліямі", а Вердзі-малодшы — "Травіяту"? Калі б не я, дык ці нарадзіла б "Дама з камеліямі" столькі "Травіят" у душах шматлікіх рэжысёраў, якія, у сваю чаргу, нарадзілі сотні варыянтаў яе на розных сцэнах, мовах і г. д.?..

Калі б не я, дык ці казаў бы Пушкін: "И божество, и вдохновенье, и жизнь, и слезы, и любовь!"

### АД КРЫТЫКА

Магчыма, сябры, калі бывалі вы на "Травіяце" ў Мінску, дык заўважылі там двух паноў, чые размовы і паводзіны зусім не ўваходзілі ў кола звычайных для тэатральнага заўсёдніка. Адзін з іх у перапынку самавіта піў каву і ўсе 15 хвілін вывучаў праграмку. Другі таксама піў каву, але неяк похапкам. А больш хваляваўся, жэстыкуляваў і амаль крычаў на першага: "Оперное мастацтва!.. праблемы густу!.. эстэтыка сцэнічнага ўвасаблення!"

Адданыя рамяству журналіста, мы далікатна падкоўваліся да тае размовы...

...— Герр Фларэстан!

...— Герр Эўзэбій! Мы працуем у "Новым музычным часопісе" ў Лейпцыгу, у спадара Роберта Шумара.

Так паны прадставіліся. І тут мы праніклісся павагай, бо вітаць на спектаклі двух найвыдатнейшых музычных крытыкаў XIX стагоддзя, спараддзе шуманаўскага літаратурнага генія — вялікі гонар.

— Ну, а вашы ўражанні ад сённяшняй "Травіяты"? — запыталіся мы, стоячы побач з гасцямі за той жа нязменнай кавай.

— У наш час было інакш, — паважна адказаў Эўзэбій і больш нічога не мовіў.

— А ў мяне наконт гэтага свае думкі! — горача пачаў Фларэстан, зноў раскідваючы эмоцыі ва ўсе бакі.

Тут мы зразумелі, што коратка не атрымаецца, і прапанавалі маэстра ад пяра нашу газету. Празвінеў званок. Фларэстан хутка збег у залу, а разважлівы Эўзэбій дапіў, нарэшце, каву і, заклаўшы рукі за спіну, апошнім зайшоў у цёмную ўжо залу.

### СКАРОЧАНА

Сярод чорна-белых блікаў люстэрак і раскошы багатай публікі праходзіць жыццё Віялеты. Прыгожая дама лёгкіх паводзінаў, звыклая да ўвагі мужчын, яшчэ не сустрэла кахання. І калі з'яўляецца юны Альфрэд, Віялета цалкам аддаецца пачуццю і хаваецца ад свету з каханым у цудоўнай загараднай віле. Там яе наведвае бацька Альфрэда Жорж Жэрмон і просіць пакінуць сына — дзеля ягонага юнацтва і гонару сям'і. Няшчасная Віялета згодная. На балі яна вымушае сябе "прызнацца" Альфрэду, што кахае Барона. Раз'юшаны, ён кідае ёй грошы!

... Празрысты стол, колішняе месца для танцаў і гульняў, цяпер — перадсмяротны ложак Віялеты. У белай, як саван, кашулі яна дарує Жэрмону-бацьку і Альфрэду, забіраючы з сабою любоў назаўсёды.

### АД ГЛЕДАЧА

**Аптыміст.** Добры густ! Бачылі, якая дынаміка вобраза? Смерць — гэта росквіт яе духоўнасці, душы, пачуццяў! Моцная рэжысёрская праца. А якая салодкая італьянская мова...

**Скептык.** Такая нязвыклая ў нас...

**Аптыміст.** Больш мне спадабаўся Жэрмон — э-э-э — Аркадзь Саўчанка. Ну, і яшчэ некаторыя спевакі.

**Фларэстан** (сам сабе). Аптыміста хвалюе дынаміка вобраза! Канешне, сама музыка яе і будуе! Хм, паслухаем далей.

**Скептык.** Казалі ж вы, аднак, пра дынаміку вобраза! Я, напрыклад, упэўнены, што яе тут няма! Калі ў першай сцэне я ўбачыў "чырвоную" Віялету сярод "чорных" мужчын, адразу зразумеў, што яна пампэ. І ў наступных сцэнах мне хапіла чорнага ды белага, каб адчуваць сябе ля царства Аіда!

**Эўзэбій** (сам сабе). Ага, сцэнаграфія яму відавочна не спадабалася. Аднак я згодны: у кожнай сцэне той самы колер, той самы

*НОВЫ ГОД — СВЯТА СЯМЕЙНАЕ...*

# Чаканне цуду, ці — хоць нечага лепшага

### У ГАСЦЯХ У ГАЛІНЫ І ПЯТРА БАГДАНАВЫХ



Жаданне сустрэцца напярэдадні Новага года менавіта з гэтай творчай сям'ёй было ў мяне свядомае. Сталася так, што Галіну я ведаю асабіста, прытым даўно, яшчэ з яе школьных гадоў. Нарадзілася Галіна ў сям'і нашага вядомага пісьменніка і грамадскага дзеяча Барыса Сачанкі. Любоў да літаратуры, жаданне паспрабаваць у творчасці і свае сілы прыйшлі да яе, несумненна ж, ад бацькі. Пачала пісаць рана, але доўгі час не рашалася паказваць каму-небудзь тыя спробы. Не рашалася, бо адольвала боязь: планка патрабавальнасці бацькам была паднята вельмі высока. А яшчэ ж — адольвала ніякаватасць. За савецкім часам узмоцнена прапагандаваліся рабочыя дынастыі, а не творчыя. Маўляў, дынастыя токараў ці муляраў — гэта цудоўна, а вось калі пісьменніцкі сынок ці дачка наследавалі бацькаву прафесію, гэта лічылася чамусьці ледзь не ганебным... Аднак жа агеньчык творчасці не патух, а разгарэўся ярка і зваблива. Сёння Галіна Багданава — досыць вядомы не толькі ў літаратурных колах празаік, творца з адметным почыркам і акрэсленым тэматычным дыяпазонам. Герой яе твораў — найперш сённяшні інтэлігент, а гэта значыць — змагар, шукальнік, самотнік і пакутнік. Выбар такога героя спароджаны самім Галіным лёсам, тым, ужо згаданым мною, нялёгкім пошукам самой сябе. Насуперак расхожай думцы, што дзіця пісьменніка ці мастака нехта абавязкова цягне, прабівае ў літаратуру ці мастацтва, яна катэгарычна не прымала нават і патрэбнай, мабыць, на пачатку творчага шляху чыёй-небудзь дапамогі. З другога ж боку, была перакanana, што менавіта інтэлігенты, якія прыходзяць у культуру з пакалення ў пакаленне, робяць гэтую культуру прафесійнай. Пазней знайшла пацвярджэнне гэтаму свайму перакананню ў словах Д. Ліхачова аб тым, што сапраўдным інтэлігентам можна стаць толькі тады, калі маеш за плячыма тры універсітэцкія дыпломы: дзедаў, бацькаў і свой. Можа быць, менавіта з гэтае прычыны герой яе — чалавек інтэлігенцкага занятку, прытым досыць часта — чалавек творчай прафесіі. Увогуле ж Галіна —"мастацкая душа". Як напаваннe, дарунак лёсу — любімая справа ў часопісе "Мастацтва" з дня стварэння яго. Яна захоплена мастацтвам, тонкі яго знаўца і крытык.

І як яшчэ адно, няйначай Боскае, наканаванне — яе сустрэча з мастаком Пятром Багданавым. Іх звёў апошні камсамольскі семінар творчай моладзі, што праходзіў у 1987 годзе ў Гародні. Да Гародні яны адно аднаго не ведалі. Спаткаліся там упершыню. Галіна ўспамінае: "Мяне ўразілі яго вочы — такія светлыя, чыстыя і такія добрыя, што мне стала боязна за яго: каб гэты светлы позірк, гэты агонь дабрыні хто не патушыў..." Два гады сяброўства ўмацавалі народжанае падчас сустрэчы і знаёмства пачуццё, яно перарасло ў каханне. І вось ужо дзевяць гадоў яны разам. Маюць двух сыноў: сямігадовага Алеся, першакласніка Рэспубліканскага каледжа мастацтваў (у якім выкладае Пятро), і па паўтара года меншага Янaчку, які не хоча адставаць ад брата і ўжо сам чытае кніжкі.

На гады іх сумеснага, сямейнага жыцця прыпадаюць і галоўныя творчыя набыткі мужа-мастака і жонкі-пісьменніцы. Галіна выдала тры кнігі прозы ("Папяровыя замкі", "Чалавек без адраса" і "Дом іхняй мары"), апублікавала ў перыёдыцы нямала апавяданняў і аповесцяў. Пятро таксама не стаяў на месцы — стаў членам Саюза мастакоў, сябрам суполкі "Пагоня". Як жывапісец, працуе ў жанры пейзажа, нацюрморта, тэматычнай карціны. У жывапісе яго найбольш хвалюе колер, яго змястоўнасць і спалучэнне. Выстаўляўся на розных рэспубліканскіх выставах. Афарміў некалькі кніг нашых пісьменнікаў, у тым ліку — жончыных..

Пытаюся ў абодвух:

**— Галя, Пятро, як вы, дзве творчыя асобы, дзве мастакоўскія індывідуальнасці, ужываецеся пад адным дахам-небам?**

*Людзі адыходзяць, і гэта непазбежна. Змяняюцца пакаленні, густы, моды, але застаецца напісанае — і застаецца памяць, найперш сярод блізкіх, родных. Напярэдадні Новага года наш карэспандэнт пагутарыла з Рагнедай Мікалаеўнай Раманоўскай, дачкой класіка беларускай літаратуры Кузьмы Чорнага.*

НОВЫ ГОД — СВЯТА СЯМЕЙНАЕ

# "Вакол бацькі раіліся людзі"

**— Рагнеда Мікалаеўна, паколькі мы сустрэліся напярэдадні свята, то, можа, вы прыпомніце для пачатку які-небудзь Новы год свайго маленства?**

— Ёлка ў маім раннім маленстве была чымсьці забароненым, буржуазным, і толькі пазней прызналі, што гэта ўсё-ткі народны звычай. І вось бацька пайшоў на Траецкі базар (дзе цяпер Оперны тэатр) і прынёс ёлку. Жылі мы тады на Чырванасцяжнай (прыблізна раён вуліцы Куйбышава). Вуліца была драўляная, але гарадская: дамы дзяліліся на некалькі кватэр. Непадалёку, за садам, цякла Свіслач. У нас у кватэры былі два пакоі, адзін з іх — кабінет. Запомнілася, як я вызіраю ў акно, а па вуліцы бацька нясе доўгачаканую ёлку... І яшчэ адна ў памяці захавалася. Жылі мы ў доме па Свярдлова (яго разбамбілі ў вайну пры першай бамбёжцы). Дом будаваўся, як тады казалі, "на паях", меў 4 паверхі і называўся "Асветнік-камунар". Я большай ужо была. Бацька сам зладзіў "крыж" і паставіў ёлку аж да столі. Цацкі майстравалі самі. У нас у пад'ездзе жыла Алеся Александровіч, сястра Андрэя Александровіча, усе малыя збіраліся там і разам з яе дзецьмі рабілі цацкі — з паперы, ваты, яечных шкарлупін. Тварык малюеш на шкарлупцы, каўнерык выразаеш, каўпачок наверх... Аднойчы я склеіла домік: вокны са слюды, а ў сярэдзіне ліхтарык з батарэйкай. Вокны свяціліся, і дом быў, як сапраўдны.

**— У Мікалая Карлавіча былі захапленні, акрамя пісьменніцкага?**

— Ён няблага маляваў, звычайна пяром. Захавалася шмат яго малюнкаў на рукапісах ваеннага часу. Такі, напрыклад: дрэва, а вакол яго абвіваецца другое, агрэсіўнае. Або: спілаваны пень, а ад яго — жывы парастак. Гэтыя малюнкі змяшчаліся ў Зборы твораў і ў асобных выданнях. А яшчэ ён любіў кветкі. Сам іх купляў і садзіў на балконе.

**— Гісторыя псеўданіма бацькі вам вядомая?**

— Я не ведаю, адкуль узяўся "Кузьма", а "Чорны" — гэта ад мянушкі сям'і ягонай маці: Іх звалі ў вёсцы "Парыбкі чорныя" — мо таму, што бедныя былі. Маці яго была праваслаўнай, і дзяцей хрысцілі ў праваслаўе. Юнаком бацька спяваў у царкоўным хоры, сябраваў з сынамі бацюшкі Жалязняковіча. Мяне ён упершыню завёў у царкву ў 1944 годзе: у раёне плошчы Чарвякова была так званая Чыгуначная царква. Сказаў: "Сёння Уздзвіжанне"... Мы часта хадзілі з ім на шпацыр, гутарылі. Толькі праз многа гадоў я пачала разумець: ад таго, што магло пашкодзіць у тагачасным жыцці, ён мяне абярагаў. Ні пра Сталіна я ад яго не чула, ні пра Леніна, ні пра Саветы. Адно на пачатку вайны такую пачула фразу: "Толькі парады ўмелі наладжваць, а як давялося — паўцякалі..."

**— Калі вы пачалі ўсведамляць, што дачка вядомага пісьменніка?**

— З першага класа. Настаўніца прачытала на ўроку бацькава апавяданне, і адзін хлопчык пасля сказаў: "От добра Ірцы: папрасіла — і бацька казку напісаў..."

**— Вас звалі Іркай?!**

— Справа ў тым, што так хацела мяне назваць — і звала — бацькава вясковая радня. Памятаю такі здымак: сяджу малая на дарослым крэсле, утапіўшыся ў ім, цераз плячо вісіць кішэнька для хустачкі, а на ёй вышыта: "Іра". Але бацька пайшоў мяне запісваць і запісаў на свой лад — Рагнедаю.

**— Выходзіць, два імені ў вас...**

— Дакладней, тры. Бо калі я хрысцілася, то назвала сябе Анастасіяй. Можа, таму, што гістарычная Рагнеда (імя, як я разумею, скандынаўскага паходжання), ахрысціўшыся, узяла сабе такое ж славянскае імя. Такая вось дзіўная гісторыя атрымалася...

**— Каго з пісьменнікаў вы ведалі ў сваім дзяцінстве?**

— Усіх, каго не паспелі хапануць. З асаблівай цеплынёй успамінала заўсёды Эдуарда Самуйлёнка: ён аднойчы прынёс мне ляльку, якая ўмела міргаць вачамі. Ну, як я магла не любіць яго пасля такога дарунка?! То ж найлепшы чалавек у свеце! Дом наш быў хоць і не багаты, але гасцінны, вакол бацькі заўсёды раіліся людзі. Паколькі тэлефонаў не было, то заходзілі проста так, часцей вечарамі. Мяне перш пасылалі ў суседні пад'езд клікаць Крапіву, а потым, бывае, і ў краму. Я клала нос на прылавак і казала: "Цёця, дайце бутэльку водкі". На пачатку бяседы разам з усімі садзілася за стол, пасля адсылалі спаць. Наведваліся да нас Броўка, Глебка, Кучар, бываў Зарэцкі, Хадыка... Пару разоў — Купала. Аднойчы ў разгар вялікага застолля прыйшлі адна пісьменніца і бібліятэкарка з Дома пісьменніка. І Купала пачаў патрабаваць, каб мама іх прагнала. Мама разгубілася і не ведала, што рабіць. Праз гадоў сорак мне патлумачыў сітуацыю Алесь Асіпенка: тую пісьменніцу ведалі як "стукачку"...

**— Ці былі вы сведкам бацькавага арышту?**



— Тады мне было каля 10-ці. Мама захварэла, і бацька выправіўся ў аптэку. Я прачнулася ад таго, што чужы чалавек нешта шукаў у мяне пад падушкай. Аказваецца, бацьку перанялі каля аптэкі, а ў нас распачалі вобыск. Пасярод пакоя, унурыўшыся, сядзеў панятым домаўпраў Мікалай Васільевіч. Усе дзеці з дома любілі яго, бо ў садзе ён пабудаваў для нас нешта накшталт эстрады, дзе мы спявалі і скакалі.

Прыходзіць да нас адразу перасталі. Неяк завітаў Самуйлёнак. Развітваючыся, пацалаваў маме руку і сказаў: "Пакуль жывы, я вас ніколі не пакіну". Але пражыў нядоўга: праз пару месяцаў памёр ад сухотаў. Энкэвэдзісты (са слоў жонкі) нібыта цікавіліся ў доктара, ці многа ён пражыве.

**— Раскажыце трошкі пра маці, а то звычайна пісьменніцкія жонкі застаюцца ў цяні...**

— Маці мая была чалавекам спагадлівым і справядлівым. Калі што не так, яна абуралася: "Дык гэта ж несправядліва!" Яна ніколі не вытыркалася, апраналася строга. Доўгі час — калі і я нарадзілася — яны жылі незапісаныя, тады так модна было. І толькі на пачатку вайны, у Горках, куды мы дайшлі пехатою, яны ўзялі афіцыйны шлюб. Ваенныя ўспаміны, вядома, найбольш балючыя... На трэці дзень вайны 1-ы пад'езд нашага дома наскрозь прабіла бомбай (а мы жылі ў 4-ым). Усе пайшлі разграбаць завалы, і калі бацька панёс насілкі з друзам, абрынула сцяна, і некага засыпала. У двары ямы-акопчыкі капалі — хавацца ад бамбёжак. Завітаў у вайсковай форме Крапіва — развітацца... Мы з маці трапілі ва Уральск, а бацьку з франтавой газеты адклікалі ў Маскву ў групу друку пры ЦК. Там спатрэбілася машыністка, і такім чынам удалося выклікаць маці. 26 чэрвеня мы прыехалі ў Маскву, а 28-га загінуў Купала. У гасцініцы "Масква" ў нас быў 824 нумар. Тэлефонны званок, бацька бярэ трубку, слухае, потым кажа нам: "Пра Купалу нядобрыя чуткі". І такая сцэнка высвечваецца памяццю: ляжу на ложку, адвярнуўшыся да сцяны, нехта мяне супакойвае, і яшчэ нечы голас пярэчыць: "Не чапай, няхай паплача"... Людзі і ў бяду сабраліся ў нас. Бацька прыцягваў людзей, як магніт. Тады ўпершыню я пабачыла Максіма Танка.

24 лістапада ў дзень майго нараджэння ў бацькі здарыўся інсульт. Маці выходжвала яго, неяк выцерабіўся, напісаў свае ваенныя раманы. Працаваў апантана. Вунь бачыце — чамадан рукапісаў у мяне захаваўся...

**— Што-небудзь яшчэ засталося?**

— Мала што... Вайна ж. Партманет, кашуля, гальштук тканы, самавар, паліто. Тоесёе з названага ёсць у Цімкавіцкім музеі. Здымкаў назбіралі ад радні і знаёмых. А рукапісы, дарэчы, ён ніколі не правіў — ён іх наноў перапісваў. ...Ледзь не першым цягнікам мы вярнуліся ў Мінск пасля вызвалення. Усё разбурана, спляжана! З вакзала я згледзела тарэц нашага дома — усё, што ад яго засталося, — са скрынкамі для кветак. 22 чэрвеня прыходжу са школы, ён за пісьмовым сталом, працуе. Перада мной раскрытая кніга Шолам-Алейхема. Чую — бацька блытана штосьць кажа, яму кепска. Напісаў на лісце паперы: "Заві людзей". Кінуліся па дактароў. Ён ляжаў ужо непрытомны, паміраў, а за сцяной грукацелі рабочыя — нашаму суседу начальніку Рыжыкаву рабілі рамонт. Так і памёр пад гэты грукат: рабочыя не паслухаліся, пабаяліся спыніць працу...

**— Многія з пісьменніцкіх дзяцей выпадаюць з бацькоўскага — духоўнага і культурнага — поля. Што вам, Рагнеда Мікалаеўна, дапамагло ў ім застацца?**

— Пасля смерці бацькі мы пасяліліся ў адной кватэры з Куляшовымі — яшчэ ва Уральску жылі адной сям'ёй. Да слова, над намі ў такой жа трохпакаёўцы размясціўся Броўка з жонкай і сынам. Маці сябравала і з Куляшыхаю, і з Броўчыхаю. Перад вайной першыя 4 класы я вучылася ў беларускай школе. Ва Уральску цэлая кампанія беларуская сабралася, гэтаксама ў Маскве: Колас, Гаўрыла Гарэцкі, Віткa, мастак Ахрэмчык... Я бегала ў Дом пісьменніка на ўсе імпрэзы, нават на пленумы і сходы, настолькі ўсё для мяне было цікава. Гэта было маё асяроддзе.

**— Як склаўся ваш далейшы лёс?**

— Заканчвала я акцёрскі факультэт, дзе выкладаў бацькаў дружбак Саннікаў. Паколькі ў 50-я гады пазачыняліся шмат тэатраў і акцёраў распіхвалі па дамах народнай творчасці, пайшла ў аспірантуру Інстытута мовы, літаратуры і мастацтвазнаўства. Займалася, вядома ж, беларускай літаратурай. Па сямейных абставінах давялося кінуць вучобу. Мяне падхапіла Купаліха ў свой музей. Урэшце я асела на "Беларусьфільме" ў якасці рэдактара мастацкіх фільмаў.

**— Скажыце, як вам падаецца, тады сем'ямі больш дружылі, чым цяпер?**

— Хто дружыў, а хто і варагаваў, але ўвогуле прыватныя стасункі былі больш цеснымі. Падчас вайны вялікі антаганізм усчаўся паміж Броўкам і Лыньковым — з-за вайсковага звання, здаецца: у апошняга зорачак болей было. Яны ледзьве за грудкі не браліся. У бацькавым асяроддзі, памятаю, не любілі Клімковіча і Александровіча.

**— А выпівалі тады многа пры сустрэчах?**

— Толькі двойчы бачыла я бацьку на добрым падпітку, і абодва разы — пасля гасцявання ў Купалы. "З гэтага дому можна выйсці толькі на карачках", — казаў бацька. Вельмі гасцінны быў дом, маладыя паэты любілі там паесці і выпіць. Адно дрэнна: прымус быў завялікі... У нас жа дома п'яных я не памятаю. Смяяліся многа — гэта так. Бацька ўсялякія смешныя гісторыі расказваў пра цімкаўцаў. Вось адна з іх. Два дзяды, бацькаў — Фэлька — і матчын — Міхал — жылі, як састарэлі, на адной печы. Цэлы год мірна ўжываліся, а перад Калядамі пачыналі спрачацца на рэлігійнай глебе. Адзін каталік, другі праваслаўны, і ніяк не маглі знайсці "згоду" наконт страў на Куццю. 11 супадала, а 12-ая разыходзілася. І яшчэ адна быль, ужо трагічная. Калі бацьку забралі ў 38-ым, (яго прамучылі 8 месяцаў і выпусцілі), то дзеду майму — Каралекам яго звалі ў вёсцы — не сказалі пра сына. Аднак ён дачуўся-такі і, не хварэўшы, памёр, мабыць, не знёс душэўнага ўзрушання. Бацька, як выйшаў, сам назваў гэтае чысло: як адчуў усё роўна ў турме.

**— У вас, бачу, шмат кніжак, і сын, названы Міколам, вялікі кніжнік-бібліяфіл. Да таго ж — шчыры беларус!**

— Бо ў доме захаваўся дзедаў дух.

**— Здароўя вам у новым годзе! Будзьце гэткай жа мілай і ўсмешлівай, якой вас ведаюць людзі.**

**Гутарыла Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

*На здымках: Кузьма Чорны з дачкой Рагнедай. 1939 г.; сям'я на лузе. 1930.*

## Не толькі кіруе



**Дырэктар Гарадоцкага Дома рамёстваў і фальклору Алена Бараўцова не толькі кіруе, а і сама займаецца вышыўкай.**

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

## Застаўся на той вайне...

**Паэт Андрэй Ушакоў (нарадзіўся 16 кастрычніка 1912 года ў вёсцы Рабяткі цяперашняга Чавускага раёна) загінуў на фронце ў першыя ж дні Вялікай Айчыннай вайны. А перад гэтым скончыў прафтэхшколу металістаў, працаваў слесарам у дэпо, у майстэрнях авіяпарка, на швейнай фабрыцы "Сцяг індустрыялізацыі", вучыўся на крытыка-творчым аддзяленні Вышэйшага педагагічнага інстытута ў Мінску, а потым ва Усесаюзным інстытуце кінематаграфіі ў Маскве, у 1939 годзе скончыў літаратурны факультэт Маскоўскага інстытута гісторыі, філасофіі і літаратуры імя М. Чарнышэўскага, пасля чаго і быў прызваны ў Чырвоную Армію, дзе служыў у рэдакцыі дывізійнай газеты "За советскую родину" (Гомель).**

**З першымі вершамі А. Ушакоў выступіў у 1928 годзе на старонках газеты "Чырвоная змена". А першую кніжку выдаў у 1932 годзе разам з П. Ананьевым і называлася яна "Рабочы пульс". У А. Ушакова выйшлі таксама паэтычныя зборнікі "Праца і маладосць", "Зарава вагранак", "Голас Радзімы". Для дзяцей у сааўтарстве з А. Жаўруком напісаў паэмы "Пра майго таварыша", "Пра слаўных папанінцаў нашага дзетсада". Спрабаваў сілы ў галіне прозы, з тым жа А. Жаўруком з'яўляецца сааўтарам лібрэта аперэты "Зарэчны барок". Найбольш поўна творчая спадчына А. Ушакова прадстаўлена ў кнізе "Наша маладосць" (1962), а творы для дзяцей змешчаны ў зборніку "Пра майго катка" (1950).**

## Настаўніца



**Звыш дваццаці школьнікаў навучае майстэрству ткацтва Марыя Аляксандраўна Волкава — майстар па ткацтве Старадарожскага раённага цэнтра народных рамёстваў. Без малога пяцьдзесят гадоў працуе яна за кроснамі і, маючы вялікі вопыт, перадае яго сваім вучням.**

*На здымку: Марыя Аляксандраўна Волкава (злева) праводзіць урок ткацтва.*

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

НОВЫ ГОД — СВЯТА СЯМЕЙНАЕ

# Ёсць Дом і ёсць Надзея

### ВЫБАР

Ставала першага позірку на незнаёмых мне тады спадарыню і спадара для гэткай высновы: яны — разам, у іх ёсць Дом. Нейк лёгка і адразу пазнаёміліся — тады ж, у ліпені 93-га, непадалёк ад магілёўскага касцёла, падчас першага фестывалю "Магутны Божа".

Ужо ў жніўні завітала да іх у Маладзечна — паслухаць рэпетыцыю ганараванага лаўрамі Мінскага абласнога камернага хору, на той час безыменнага, цяпер вядомага пад назваю "Sonorus". Пакой, арандаваны хорам у будынку рабочага інтэрната, кантраставаў з гэтак званымі месцамі агульнага карыстання, як асабняк з "бамжатнікам". Быў Домам: для музыкі, для гаспадароў, для гасцей... Нават са Смаргоні ды Мінска, з Вілейкі ды Стоўбцаў ехалі сюды артысты хору на рэпетыцыі — такі быў энтузіязм!

Урэшце абласны хор, здатны канкурыраваць са сталічнымі калектывамі, мусіў пакінуць свой утульны прыстанак у Маладзечне і пачаць новае жыццё — у Мінску.

Тут абнавіўся і стабілізаваўся творчы склад калектыву; фантастычная працаздольнасць, уласная мастацкая праграма кіраўніка, яго сталыя стасункі з беларускімі кампазітарамі паспрыялі інтэнсіўнаму канцэртнаму жыццю, прызнанню хору "Sonorus" за мяжой.

Прэм'еры, гастролі, добрая слава... Вось толькі наконт Дома разважаць складана. Стваральнік і мастацкі кіраўнік хору Аляксей Шут працуе цяпер у сталіцы. Ягоная жонка, музыказнаўца, педагог і ў свой час нязменная вядучая канцэртаў Надзея Шут, — у Маладзечне. Там і кватэра. А тут — пакуль ніякіх перспектыў на сямейнае жытло.

Можа, не надта гэта было абачліва — звярнуцца з пытаннямі пра хатняе свята да гаспадара сям'і, у якой сапраўднай праблемай стаўся клопат пра агульны дом?

### З РАЗМОЎ

Аляксей Аляксандравіч ад гаворкі не адмовіўся і нават запрасіў на Новы год у госці — у Маладзечна:

— Дом — ёсць, і ён там, у Маладзечне, і нягледзячы ні на што, "раздвоенасці" паміж Мінскам і Маладзечнам не адчуваю... Час мінае, і з узростам, натуральна, мяняецца стаўленне да самога рытуалу сустрэчы Новага года. Калі раней імкнуліся сустракаць яго сярод сяброў, рыхтавалі нейкія жартоўныя газеты, гульні, рабілі ўсё шумна, весела, дык цяпер, асабліва ў акалічнасцях майго вандроўнага жыцця, хочацца больш спакойных і ціхіх святаў. Традыцыя — шматгадзіннае навагодняе застолле. Загадзя купляюцца прадукты, гатуецца некалькі страў. назапашваюцца разнастайныя смачныя напоі, з якіх потым робяцца фантастычныя productsактэйлі... Праўда, фінансавыя магчымасці сям'і апошнім часам не дазваляюць рабіць стол багатым, дый выбар прадуктаў, іхняя якасць прымушаюць уздыхнуць... Тым не менш, займаюся забеспячэннем напоямі, над астатнім чаруе жонка. Ёсць, праўда, нязменная "фірмовая" страва, да прыгатавання якой так ці іначай далучаецца ўся сям'я: пельмені.

**— А як наконт "музычных пачастункаў"?**

— Ну, тое, што сям'я — музычная, асабліва ніколі не выяўлялася ў святочнай абстаноўцы. Па-за працай музыканты зазвычай проста не любяць лішні раз сядаць за інструмент. Ну, вядома, у маладосці маглі нешта паспяваць разам, і тады сам сядаў за фартэпіяна — падыграць. А так — проста гучыць вясёлая танцавальная музыка. Паўтаруся: цяпер ужо хочацца ціхага, спакойнага Новага года ў коле сям'і. Дзеці ўжо дарослыя — старэйшая дачка з мужам жыве ў іншым горадзе, малодшая вучыцца ў Беларускай акадэміі мастацтваў. Ім з намі, мабыць, сумнавата — святкуюць у сваіх кампаніях. А для нас вялікая радасць, падарунак "пад елачку" — пабыць разам з унучкай. Ёй паўтара гадкі, і ёй цікава ў святочным доме, дзе стаіць упрыгожаная ёлка, для якой набыты новыя цацкі. І гірлянда сёлета новая, прыгожая — купіў у Германіі, падчас нядаўніх гастроляў... Так што ў нас дзве Насці цяпер — маленькая ўнучка ды мая жонка Надзея Васільеўна, я яе Насцяй заву...

**— Ведаю, што Надзея Васільеўна перажывае за ўсе справы вашай "творчай сям'і" і поспехі хору "Sonorus" радуюць яе, як падарункі. Такіх падарункаў за мінулы год назбіралася "пад ёлачку" багата?**

— Дзякуй Богу. Самае адметнае тое, што аркестр, які з'явіўся пры хоры "Sonorus" і ўпершыню публічна выступіў у снежні 96-га, даказаў сваю творчую мэтазгоднасць і жыццяздольнасць. Новая форма музіцыравання, кшталту даўняй беларускай, еўрапейскай, капэлы ўспрымаецца як арганічная і з вялікім патэнцыялам з'ява мастацкага жыцця. Гэтым складам падрыхтавалі прэм'еру кантаты Аляксандра Літвіноўскага "Да Маці Бо-

# УНДЭРВУД

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

рамонце тэхнікі. Звесткі пра падрыхтоўку да веснавой сяўбы, пра пачатую вывазку ўгнаенняў на палеткі. Яшчэ сёе-тое. І ягоны—Печкурова — артыкул да 70-годдзя з дня нараджэння Іосіфа Вісарыёнавіча Сталіна.

З выхадам першага нумара газеты было вялікае свята. Адзначалі ўрачыста ў клубе. Прыехаў асабіста першы сакратар райкама. Пра з'яўленне новага друкаванага органа паведаміла Тэлеграфнае агенцтва. Прозвішча Печкурова абляцела ўвесь Саюз.

Машынка ў рэдакцыі стаяла толькі дзеля самавітасці. Артыкульчыкі для газеты друкавала сельсавецкая сакратарка. А на ундэрвудзе Печкуроў адным пальцам клацаў паведамленні аб выпадках антысавеччыны, кожнага разу падпісваючы іх словам "Доброжелатель". У райаддзеле МДБ распячатвалі канверты з добразычлівай усмешкай: "Зноў Пятровіч пастараўся. Не спіць у шапку". Ува ўсім раёне не пісаў ад рукі (бо пазнаюць па почырку) даносы толькі ён адзін.

●

Пасля вайсковых збораў Акінчыц заехаў у сталіцу толькі на дзень. Расплаціўся з кватэрнай гаспадыняй, забраў транты, а груваскі ундэрвуд пакінуў да часу ў дружбака. Журналісцкі дыплом цёмнасіняга колеру ляжаў у кішэні. Заехаў пагасцяваць на тыдзень да бацькоў, а потым выехаў да месца працы, каб быць першым і мець выбар.

У рэдакцыі яго прынялі, але нейк насцярожана. Нізенькі кумпячок-парторг адразу пацікавіўся палітычнымі сімпатыямі Акінчыца. У краіне ўжо тады было неспакойна. Акінчыц палічыў за лепшае не размаўляць пакуль з рэдакцыйнымі па-беларуску. І слушна: у тыя часы гэта б паслужыла дакладнай прыкметай нацыяналізму.

Ён, канечне, быў удзячны, што не трапіў у глухі раён, але на працу хадзіў як на прымусовую. Стараўся паменш гаварыць. Абмяркоўваць змены ў Палітбюро не хацелася, бясконцыя даклады першых сакратароў яго таксама не тое што не цікавілі, але выклікалі пачуццё абсурднасці ўсяго, што адбывалася ў рэдакцыйных сценах і ў чым нейкім наканаваннем ён прымушаны быў браць удзел. Усё, што яму часам удавалася зрабіць для сябе, — гэта атрымаць ролю статыста.

Гэтак працягвацца доўга не магло. Але працягвалася.

Ён гвалтам выдушваў з сябе "палажаныя" радкі. І не больш, і не заўсёды. У сталічных рэдакцыях паступова на яго забыліся. Ён паспрабаваў быў зрабіць над сабой намаганне: напісаць два-тры артыкулы. Марна. Блякла, змучана і мёртва.

Потым ён успомніў аб ундэрвудзе.

Прыдумаў нейкую прычыну, адпрасіўся і паехаў у сталіцу.

Дружбака ён не знайшоў. Той з'ехаў да Масквы вучыцца ці ў Літінстытуце, ці на літаратурных курсах. Адраса не пакінуў.

Прамінуў яшчэ час.

Аднойчы ў цэнтральным часопісе Акінчыц убачыў знаёмы твар. Сапраўды: ён. Пара апавяданняў, біяграфічная даведка. Фанабэрлівае "родился в Белоруссии", "глупое" расейскае "работал дворником, сторожем, грузчиком". Яшчэ толькі качагарам хіба не быў. Не пашчасціла... Пра універсітэт — ані слова. Эстэты. Лаюць сацрэалізм з першым пралетарскім пісьменнікам разам, а ён толькі пасміхаецца ўнутры іх... Акінчыцу было брыдка, што ўся гэтая лухта друкавалася на ягоным ундэрвудзе.

Напісаў у Маскву ліст. Не адразу, але прыйшоў адказ. Запрашаў наведаць "белокаменную". Акінчыц не згадзіўся. Запатрабаваў спаткання на нейтральнай тэрыторыі.

●

Печкуроў-старэйшы далёка пайшоў. Своечасова заўважылі. Паслалі вучыцца ў ВПШ. Скончыў. Атрымаў ганаровую ґрамату абкама партыі. Сам зрабіўся выкладчыкам у партшколе. Каваў ідэалагічныя кадры.

Памёр раптоўна.

Вельмі журыўся, што кіраўнік аднае афрыканскае дзяржаўкі, для якое ён рыхтаваў партыйных прапагандыстаў, аказаўся канібалам.

Увечары па тэлевізары ў праграме "Час" паказалі чарапы ды косткі з'едзеных тым палітычных праціўнікаў. А ўначы Печкурова не стала.

Ва ундэрвудзе застаўся аркуш ненапісанае дысертацыі.

●

Час быў няпэўны, каб не сказаць — трывожны. Акінчыцу трэба было зрабіць у машынцы дзве беларускія літары, але ён баяўся несці яе да майстэрні. Ён адчуваў скурай, што на яго і так складзена дасье.

Паспрабаваў быў атрымаць літары ў друкарні, але яго заспеў майстар (разумна-хітрыя вочы) Людвік Сяргеевіч. Завёў да сябе ў закапурак і жорстка папярэдзіў, што паведаміць куды трэба, бо мае такі загад: нефармалы ўсюды спрабуюць аддрукаваць свае антысавецкія выданні.

Месяц Акінчыц хадзіў здранцвелы, а потым наважыўся на апошні крок. Паехаў у Вільню.

Ішоў дождж: едкі, зімовы.

У Вільні было вельмі неспакойна. Пастрэльвалі.

Майстар з прозвішчам Варшаўскі ўсё зрабіў як след. Але дома, калі Акінчыц прыцёг друкарку, падважка карэткі раптам зламалася. Давялося кожнага разу перакручваць уручную: раз-два-тры-чатыры, раз-два...

●

***На стале маім кніжкі,***
***як цэгла — адна на адной.***
***Побач машынка чорнаю плямай***
***са зламанай рукой.***
***Свечка памерлая, чорны кнот***
***бела-хворае стэарыннае цела***
***працяў навылёт.***
***Кветка зімовая здранцвела канае,***
***утапіўшы карэнне засмягла***
***ў гліняным гаршку***
***са спятрэлай зямлёй.***
***Зіма. Лютага цень.***
***Дотык холаду.***

●

У краіне рабілася ўсё напружаней. Па вуліцах горада ўжо раз'язджалі бэтээры. Паўсюдна патрулі: вайскова-міліцыйныя.

Друкаваць няможна было, бо пачуюць, а гэта — немінучы арышт. Друкаванага слова баяліся.

Аднак галава ўсё працавала. Аднойчы сказаўшы, хацелася гаварыць праўду. Гэта як хвароба.

Акінчыц зірнуў скрозь вэлюм фіранкі на вуліцу. Патрулі ходзяць. Ён апрануўся і паклаў у заплечны мех ундэрвуд. Галоўнае — не прыцягнуць увагі. Шарэла.

Праехаў прыпынак на аўтобусе. Перайшоў на другі бок вуліцы. Сеў у тралейбус. Яшчэ тры прыпынкі. У лес.

Ішоў з паўгадзіны.

Рыбацкі дашчаны будан у хмызах. Недалёк рака. Ззаду дрэвы.

Ён забраўся ўнутр. Засвяціў газовачку. Зарадзіў ундэрвуд аркушам. Пачаў друкаваць.

Прамінула колькі часу. Вуха злавіла гукі аўтарухавіка. Пазней — урыўкі чалавечых галасоў. Каманды... Ён умэнт задзьмуў газоўку. "Добра што хоць без сабак". Схапіў за раму друкарку. Адхон. Сумёты. Закутая лёдам рака. Тоўсты лёд, непрабівальны.

Цёмнае месца. Тут танчэй. Удар, яшчэ. Чорны ундэрвуд — у чорную ваду.

Да таго берага. Хутчэй!

Тамака чарнеў лес.

Кроў тоўхала Акінчыцу ў скронях: "Каб жа толькі паспець!" Быць ім, беларусам, заўжды ў сваёй хаце партызанамі. Партызанамі, якія адседжваюцца ў лесе. Пакуль не скончыцца самагонка з салам. А яны не скончацца ніколі.

"А-ха, а-ха, а-ха, а-ха..."

У Акінчыца таксама іншага выйсця не было, але ён не стрываў і да часу выйшаў з лесу.

"А-ха!"

*1990 г.*



жай", гэты склад натхніў Алега Залётнева на стварэнне "Нясвіжскай імшы" — паводле матэрыялаў Шымкевіча, і абыходкавыя касцельныя ноты 18 стагоддзя, набылі цікавае драматургічнае развіццё, закончаную класічную форму... Сіламі хору і аркестра "паднялі", пакуль у фрагментах, "Рэквіем" Восіпа Казлоўскага, нашу забытую спадчыну. Была і новая харавая прэм'ера — "Усяночнае дбанне" Алега Хадоскі.

Перад калядамі зноў пабывалі ў Германіі, мелі там сем канцэртаў. Вельмі важна, што мяне як кіраўніка хору запрасілі правесці семінар для хормайстраў цэлага рэгіёна — зямлі Эсэн — па праблемах выканання рускай і беларускай (я папрасіў арганізатараў зрабіць такую дыферэнцыяцыю) духоўнай музыкі. Здаецца, немцы адчулі нашу адметнасць і зацікавіліся беларускай праваслаўнай музыкай, якая адрозніваецца ад рускай традыцыі — сваёй "тканкай", развіццём, гармоніямі, адмысловай пластыкай, больш мяккім, цёплым, струменлівым музычным сінтэзам, ці што.. На семінары ў якасці прыкладу паказваў 11 твораў, з іх 7 — беларускіх аўтараў. Прыемна было пачуць высокую ацэнку ад арганізатараў і ўдзельнікаў імпрэзы.

Удалае было і гастрольнае турнэ па германскіх касцёлах: аншлагі, гарачы прыём. Пасля канцэрта ў Дармштаце арганізатары тамтэйшага еўрапейскага харавога конкурсу (на якім, дарэчы, сёлета быў абсалютным лідэрам студэнцкі калектыў Акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам Віктара Уладзіміравіча Роўды) запрасілі нас паўдзельнічаць у ім — увесну 99-га.

Умацаваліся сувязі з германскім хорам "Унтэрмайн". Маем ужо кампактдыскі з творамі ў сумесным выкананні. А гэтым разам выступілі з новай праграмай: бахаўскі псальм "Ісус — мой друг", "Ойча наш" Чайкоўскага, "Алілуя!" з "Літургіі" Хадоскі. Творам Баха дырыжыраваў кіраўнік "Унтэрмайна" спадар Кернер, двума іншымі — я. Публіка была ўзрушаная тым, як зводны інтэрнацыянальны хор дакладна і выразна спявае і па-нямецку, і на царкоўнаславянскай мове! Новы год дае надзею на сустрэчу з германскімі калегамі ўжо ў Мінску...

## НЕСВЯТОЧНАЕ

На сваёй "рэдактарскай мытні" я доўга перабірала дэталі размовы з Аляксеем Аляксандравічам Шутам, вагаючыся: прапускаць на газетную паласу несвяточны багаж ці пакінуць па-за еймымі межамі?

Трэці год шаноўны маэстра ў міжгастрольны час туляецца па танных мінскіх гасцініцах ды інтэрнатах. Нібыта ў камандзіроўцы і нібыта — не... Здаць кватэру ў Маладзечне, каб атрымаць раўнацэнную ў сталіцы? Каб жа ён быў чыноўнік, які робіць няўгледны ўклад у эканоміку краіны!.. Калі яму недвухсэнсоўна падказалі "самы просты шлях" да вырашэння праблем: фіктыўны развод, купленая мінская праліска, "уз'яднанне сям'і" на камунальнай сталічнай жылплошчы і г. д. — і ён, і жонка ўспрынялі гэта як знявагу.

Аптымісты, яны прымаюць жыццё як дадзенасць, не шукаюць у ім лацвейшых сцежак — зважаюць на станоўчае, спадзяюцца на лепшае. Не скардзяцца. Працуюць. Трываюць.

Ці не больш трывожыць дом для хору і аркестра, бо цяпер так званы офіс, рэпетыцыйнае памяшканне ды сховішча для нот і канцэртных касцюмаў раскіданыя па трох процілеглых канцах горада.

"Новы год дае надзею, што "Sonorus" не застанецца без стацыянарнага памяшкання надоўга. У астатнім... Не падвяло б здароўе: усё ж такі без малога 50. А падтрымку сям'і адчуваю. Бо дом у мяне, насуперак сённяшняй парадаксальнай сітуацыі, — ёсць!"

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота 80-х гадоў*

ДУША

# Набажэнства на роднай мове

Пасля рэферэндуму пачаўся імклівы працэс выцяснення беларускай мовы з ужытку практычна з усіх сфер жыцця. Усё, што было зроблена па адраджэнні мовы за кароценькі прамежак часу дзеяння Закона аб мовах, было загублена.

Неяк само-сабой згубіла актуальнасць і пытанне аб беларусізацыі царквы. Не да таго стала, ці што... Грамадскасць замаўчала і зноў перанесла сваю дзейнасць на кухні...

А вось царква — маю на ўвазе царкву праваслаўную — працягвае сёе-тое рабіць у справе беларусізацыі. На мой погляд, праваслаўнай Царкве на Беларусі, якая толькі пачала ўставаць на ногі пасля бальшавіцкага генацыду, дарма дастаецца ад пэўных колаў нацыянальна свядомых, але недасведчаных грамадзян: Беручы на сябе смеласць быць суддзямі ў такіх далікатных пытаннях, як вера і царква, і катэгарычна сцвярджаючы, што царква ўсяляк працівіцца беларускаму адраджэнню, што яна праводзіць палітыку Масквы, гэтыя людзі робяць тым самым вялікі грэх. Магчыма, яны проста не ведаюць таго, што шэраг святароў ужываюць беларускую мову ў сваёй практыцы, што ідзе праца па перакладзе Біблії, набажэнства і трэбаў на беларускую мову, што ў Жыровіцкай духоўнай семінарыі багаслоўе і шэраг іншых прадметаў выкладаюцца на беларускай мове.

Больш за тысячу гадоў служыцца літургія на царкоўнаславянскай мове. За гэты час богаслужэнне вырасла і выкрышталізавалася ў аб'ёмную, закончаную сістэму, якая спалучае і багаслоўе, і навуку, і паэзію, і шмат чаго іншага. Сотні тамоў займае апісанне ўсяночнай, літургіі, шматлікіх акафістаў, канонаў і іншых відаў богаслужэння. Сотні кніг прысвечаны тлумачэнню Святога Пісання, апісанню Жыцій Святых і іх вучэнняў. І ўся гэтая праца рабілася, ды і робіцца цяпер на царкоўнаславянскай мове. Таму, зразумела, адначасна перайсці на богаслужэнне на іншай мове проста немагчыма. Нездарма ж і ў самой Расіі ў царкоўны ўжытак руская мова так і не ўвайшла, і традыцыйна, як і ў большасці праваслаўных краін (акрамя Расіі і Беларусі — у Балгарыі, Сербіі, Македоніі, Украіне, Польшчы і іншых), мова набажэнства — царкоўнаславянская. У святле сказанага, я думаю, будзе ясна, што пераход да беларускай мовы ў набажэнстве на Беларусі будзе яшчэ больш складаным, чым у Расіі на рускую.

Аднак усё гэта не азначае, што мы павінны сядзець склаўшы рукі і нічога не рабіць у напрамку беларусізацыі царквы. Складанасць праблемы яшчэ і ў тым, што гісторыя не данесла да нас ні беларускай літургіі і ўсяночнай, ні беларускіх трэбаў. Мы ведаем толькі некалькі беларускіх калядных і велікодных кантаў XVI—XVIII стагоддзяў, якія аднолькава былі папулярнымі на Беларусі як сярод праваслаўных, так і каталікоў і уніятаў.

Такая няпростая сітуацыя з мовай беларускай праваслаўнай царквы вымагае вельмі сур'ёзнага падыходу да перакладу царкоўных тэкстаў на беларускую мову. На гэтую працу патрэбен не адзін год. І яна даўно ўжо вядзецца. Шмат зроблена ў гэтым напрамку Беларускім праваслаўным брацтвам Трох Віленскіх Мучанікаў, што існуе пры Свята-Петрапаўлаўскім храме ў Мінску. Пры брацтве ёсць выдавецтва, дзе рыхтуецца да друку розная рэлігійная літаратура на беларускай мове. Кожны год, пачынаючы з 1994-га, выдаюцца беларускія праваслаўныя календары. Выходзіць штомесячны бюлетэнь "Артапрэс", міжнародны часопіс "Праваслаўе ва ўсім свеце" і іншая літаратура.

Цяпер — аб самым галоўным. Гэта — нядаўнія змены, якія адбыліся ў царкоўным богаслужэнні. З верасня 1997 года кожную сераду а 17-й гадзіне ў Свята-Петрапаўлаўскім саборы на беларускай мове служаць малебен "За беларускі народ" і акафіст Трох Віленскіх Мучанікаў. Працу гэтую ўзяў на сябе настаяцель храма протаіерэй а. Георгій Латушка і хор брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў. Акрамя таго, рыхтуецца пераклад літургіі на беларускую мову. Пераклад гэты з царкоўнаславянскай мовы робіцца вядомым дзеячам у галіне беларусізацыі царквы протаіерэем Свята-Духаўскага храма а. Сергіем Гардуном.

Аднак вось што дзіўна. Дзе нашы адраджэнцы? Дзе свядомая праваслаўная інтэлігенцыя? Згаданы акафіст і малебен праходзяць у паўпустым храме. Прысутнічаюць на гэтай службе ўсё тыя ж бабулі, якія і заўсёды ў царкве, ды некалькі маладых людзей.

Дык давайце пачынаць з саміх сябе. Размоў пра царкву шмат, а вось каб прыйсці у храм, справіць службу, памаліцца па-беларуску — дык ахвотнікаў мала. Навошта ж наогул ставіць пытанне аб беларускамоўным набажэнстве, калі вы, спадары свядомыя беларусы, яго ігнаруеце? Яно ж ёсць, карыстайцеся такой магчымасцю.

**Анатоль АСТАПЕНКА**

# Дарога ў свет

Чытаю ў чарговым томе "Беларускага кнігазбору" ўступны артыкул В. Ластоўскага да першага нумара часопіса "Крывічанін": "А тым часам перад беларускім грамадзянствам ляжыць бязмерны абшар работы на кожным полі. І нам нельга марнаваць цяперашняга дарагога часу, а наадварот, трэба выкарыстаць усе нашы сілы на будаванне лепшага заўтрашняга дня. Нам у пакрыўшую наша пакаленне цемру нельга спаць, а трэба браць каганцы і ісці свяціць народу свайму, і будзіць яго, і весці яго да новых зор, да светлых дзён. І дзеля гэтага мы клічам усе актыўныя нашы сілы да працы на ўсіх сцежках жыцця. Мы хочам, каб кожны чалавек кінуў стан апатыі і нерухавасці і ўзяўся да працы ў тым кірунку, да якога ён здатны і да чаго ён рыхтаваўся, а не ў тым, куды яго прыпадковая хваля закінула". Чытаю і міжволі думаю пра Уладзіміра Содаля, нашага заўзятага літаратурнага краязнаўца.

В. Ластоўскі, відавочна, меў на ўвазе агромністую патрэбу працы на карысць Бацькаўшчыны. Працу, якая магла б зварухнуць, абудзіць масы. Мне бачыцца, што менавіта дзеля гэтага працуе і Уладзімір Содаль. Кожнай сваёй краязнаўчай кніжкай руплівы збіральнік літаратурнай памяці як быццам імкнецца пашырыць прастору цікаўнасці да беларускага слова, да беларушчыны, да тых апосталаў, каго ён абраў сваімі героямі.

Беларускае літаратурнае краязнаўства багатае на імёны. У той ці іншай ступені краязнаўства прысутнічае ў досведах Сцяпана Александровіча, Генадзя Кісялёва, Адама Мальдзіса, Кастуся Цвіркі, Генадзя Кахаюўскага, Віталя Скалабана, Леаніда Пракопчыка... Беларускія даследчыкі чуйна, асэнсавана ставіліся і ставяцца да высновы: нельга адкрыць, спазнаць спадчыну творцы, не спазнаўшы, не адкрыўшы тую мясцовасць, якая нарадзіла і выхавала яго.

З першых захапленняў У. Содаля — жыццё, творчасць Янкі Купалы. У купалаўскай энцыклапедыі ёсць (па праву) артыкул "Содаль Уладзімір Ільіч". У ім чытаем: "...У кн. "Пуцявінамі сейбіта" (1982) расказвае пра мясціны, звязаныя з жыццём і дзейнасцю К., людзей, якія сустракаліся з паэтам. Даследуе гісторыю ўспрымання верша К. "А хто там ідзе?" Сабраў звязаныя з гэтым успаміны К. Буйло, П.Сергіевіча, Т. А. Паўловіч-Клімекі (дачкі бел. пісьменніка А. Паўловіча), акад. Г. І. Гарэцкага, настаўніка і драматурга В. Гарбацэвіча, З. Абрамовіча (былога акцёра трупы І. Буйніцкага), пісьменнікаў М. Ісакоўскага, А. Жукоўскага, М. Карыма, В. Бабаяна, англ. перакладчыка У. Мэя. З таго часу Уладзімір Ільіч і ў купалаўскай тэме зрабіў нямала. Да артыкулаў у "ЛіМе" і "Голасе Радзімы" дадаліся многія публікацыі ў газеце "Наша слова", часопісе "Роднае слова", іншых выданнях.

Дадалася і асобная купалаўская кніжачка — "Тут бачу свой край". У ёй, як і ў іншых сваіх публікацыях, У. Содаль выступае не ў ролі літаратуразнаўца, а хутчэй у ролі ўважлівага падарожніка па купалаўскіх літаратурных мясцінах. Бараўцы — вось да чаго прыцягнута ўвага ў кнізе. Малюсенькая вёсачка. Нават у купалаўскай энцыклапедыі пра Бараўцы — усяго некалькі радкоў: "...вёска ў Мінсккім р-не, за 18 км. ад Мінска. Сюды ў 1904 пераехала сям'я Луцэвічаў. У 1904—09 маці паэта арандавала тут фальварак (знаходзіўся ў канцы вёскі). К. увосень 1905 адсюль пайшоў працаваць на бровар у Сёмкава. Прыязджаў у Б. у 1906, калі працаваў на бровары ў Яхімаўшчыне, і ў 1907, калі быў памочнікам вінакура ў Дольным Снове. У гэты час аднавіў ранейшыя сувязі з У. Самойлам, якому паказваў свае вершы. Тут напісаў драм. паэму "Адвечная песня" (1908) і верш "Явар" (1909). Увосень 1908 К. выехаў у Вільню, адкуль наведваўся ў Б. На месцы былога фальварка засталіся азярцо і калодзеж". Вось і ўся інфармацыя. Аўтар жа стварае (на 78 кніжных старонках) свайго роду "энцыклапедыю Бараўцоў" — на гэта трэба мець асаблівы талент, асаблівую энергію.

У. Содаль з разраду даследчыкаў, якія зараджаюць, ствараюць сваімі кнігамі атмасферу прысутнасці ў пэўным краі, пэўнай старонцы. Такія кнігі пісаў С. Александровіч, такімі кнігамі зараджаў і працягвае зараджаць Г. Каханоўскі. Сіла даследаванняў усіх трох — поруч з іншым — і ў жывых сустрэчах са сведкамі, родзічамі, блізкімі нашчадкамі герояў і персанажаў. У палюддзі шукаў Айчыну, наш край і Яраслаў Пархута (у яго і "чыстая" мастацкая проза атрымлівалася, як мне падаецца, краязнаўчай). Выходжванне, дарогу як найвялікшы сімвал у слове пра С. Александровіча акрэслівае Янка Брыль: "...Ярка і ўдзячна памятаю тую восеньскую красу, а яшчэ і легенду, у той дзень пачутую, а пасля і запісаную ў эсэ "Родны кут". Пра тое, як землякі-наваградчане нібыта чулі ад свайго дэпутата — Якуба Коласа, што ён перад смерцю хацеў бы прайсці пехатой па абочыне гасцінца Баранавічы — Наваградак, каб яшчэ раз палюбавацца хараством тых лясоў, палёў і вёсак".

У абсягу сённяшніх зацікаўленняў У. Содаля галоўны клопат — Мацей Бурачок, Францішак Багушэвіч. У 1990 годзе "Полымя" выдае сціплую кніжачку "Кушлянскі кут". У 1992 годзе ў тым жа выдавецтве выходзіць "Жупранская старонка", у 1995 годзе — "Свіранскія крэскі". Своеасаблівая трылогія пра мясціны, звязаныя з Мацеем Бурачком. А яшчэ ж адна кніга пра Багушэвіча — ёмісты томік "Сцежкамі Мацея Бурачка" ("Мастацкая літаратура", 1991). А яшчэ ж і кніга-альбом "Францішак Бенядзікт Багушэвіч" (1986). Дадайце сюды многія артыкулы ў перыёдыцы, у альманахах, зборніках, а таксама ўкладзеныя кнігі твораў Багушэвіча — "Мая дудка", "Каму дудка паслужыла...", "Творы". Багушэвіч для Содаля — асобная, бясконцая планета. З 1960-х гадоў яго захопленасць багушэвічазнаўствам. "Асвойваць Багушэвічаву тэму, спасцігаць яе сэрцам і душой я пачаў дзесьці з 1968 года. Часта ездзіў у Кушляны, знаёміўся з наваколлем і людзьмі, і кожнага разу яны адкрывалі што-небудзь новае".

Чытаючы кнігі краязнаўца, думаючы аб зробленым ім, неўпрыкмет лаўлю сябе на жаданні параўнаць, правесці паралелі: Содаль — Гейчанка. Так, у Содаля няма ўласнымі рукамі і галавою створанага музея, як у Гейчанкі — Міхайлаўскае. Ды Багучэвічаўскі музей не горшы, чым Кушляны, пабудаваны Содалем ва ўяўленнях, у шырокай прасторы. Музей гэты — увесь Багушэвічаў свет. Сваёй штодзённай, натхнёнай працай ён працягвае асэнсаванне паэзіі Багушэвіча.

Спасцігаючы Ф. Багушэвіча, шукаючы таямніцы, спрабуючы расшыфраваць многія з акалічнасцяў, У. Содаль крочыць, ідзе ў вялікі свет. Прыватнабагушэвічаўскае становіцца грамадска, літаратурна значным. Нічога са знойдзенага альбо апісанага У. Содалем не падаецца дробязным. Мо па законах, аднойчы выкладзеных згаданым ужо С. Гейчанкам? "Неадушаўлёных прадметаў няма. Ёсць неадушаўлёныя людзі". І яшчэ адно яго выказванне: "У будучым мы навучымся расшыфроўваць памяць рэчаў, і тады яны многае раскажуць пра тое, каму належалі". Код памяці рэчаў, вядома ж, існуе. Праўда, яго так проста фізічна знішчыць, калі раструшчыць тую альбо іншую рэч, калі спапяліць яе ў агні, кінуць у багну балотную. А вось памяць народа, код памяці? Наколькі яны трывалыя, магутныя, не падуладныя знішчэнню?.. Апошні час пераконвае: і памяць таксама губляецца, і свядомасць людзей рушыцца, становіцца азызлай, расхлістанай непатрэбшчынай.

І якраз Содалі, Каханоўскія, Кісялёвы і падобныя да іх — бы тыя ваяры-абаронцы перад націскам варожай антыбеларушчыны. Ці вытрываюць? Ці вытрываем?..

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

Сяброўскія шаржы Алега Карповіча


Аляксандр Сасноўскі


Ігар Лучанок


Міхаіл Фінберг


Эдуард Ханок


Ліка Ялінская




# Навагоднае

## Трыпціх

### 1. КУЦЦЯ

*Куцця — на стол кладзецца сена,*
*Ёсць таінства ў такой хвіліне.*
*Мароз б'е посахам па сценах,*
*У сінім змроку неба стыне.*

*На елцы свечкі зіхацяцца,*
*Ва ўсім і чыстата, і гожасць.*
*Абрус бялюткі,*
*страў дванаццаць —*
*Дары зямелькі з ласкі божай.*

*Ідзе ўрачыстая вячэра*
*Няспешна, як імша святая.*
*Варожым і глядзім на дзверы —*
*А раптам шчасце завітае.*

### 2. КАЛЯДЫ

*Каляды — хто ім з нас не рады!*
*Святло Дабра над родным краем.*
*Пушыстым інеем прысады*
*З любоўю снежань прыбірае.*

*Іскрыста-белыя кілімы*
*Пакрылі палявыя далі.*
*...Пакаемся перад усімі,*
*Каму мы крыўды прычынялі.*

*Жадаючы суседзям міру,*
*Імкнём да Бога ўсёй душою.*
*І словамі малітвы шчырай*
*Сябе ўзвышаем над сабою.*

### 3. НОВЫ ГОД

*Страчаем Новы год з надзеяй*
*Нарэшце вырвацца з тунеля.*
*Хто у пару арэ і сее,*
*Той важкае калоссе спеліць.*

*Сямейная збярэцца веча,*
*І, ўспамінаючы Каляды,*
*У ціхі навагодні вечар*
*Забудзем усе спрэчкі, звады.*

*З адвечнай думкай аб Ісусе*
*Нам хлеб расціць*
*і дбаць пра нівы.*
*І помніць, што без Беларусі*
*Наш лёс*
*не можа быць шчаслівым.*

**Аркадзь НАФРАНОВІЧ**

## Элегія

*Новы год не манну з неба*
*Абяцае нам, але*
*Як-ніяк кавалак хлеба*
*Бог галоднаму пашле.*

*Нездарма ўладыка строга*
*Вучыць паству ўсякі раз,*
*Што начальства ўсё ад Бога,*
*І даецца на заказ.*

*Не для помсты, для вучэння*
*Бог карае за грахі,*
*Наша ў тым і прызначэнне,*
*Каб за ўсё плаціць даўгі.*

*Чуткі ходзяць у народзе,*
*Што чакаць не доўгі час:*
*Трэцяе тысячагоддзе*
*Будзе лепшым і для нас.*

*А пакуль... Калі сумуеш,*
*Што знасіліся штаны, —*
*Не сумуй, перазімуеш,*
*Недалёка да вясны.*

**Анатоль ЦЫРКУНОЎ**

***Сцяпан Сініца, як вы маглі заўважыць, у нас друкуецца не так часта. На гэты раз, здаецца, ён выкаціў цяжкую артылерыю і скіраваў яе ў бок сваіх ідэйных праціўнікаў. У гонар свята і многіх дзён адпачынку дазволім яму трошкі папалохаць вераб'ёў...***

Сцяпан СІНІЦА

## Літаратару

*Ён пасярод —*
*і наш, і трошкі іхні,*
*Ён памяркоўны, ветлівы і ціхі.*
*Калі б хоць грам*
*рашучасці дадаць,*
*То можна на базары прадаваць.*

## Гаваркому

*Няма спачыну...*
*Сверб у бедака.*
*Няхай бы яго слова*
*справай стала.*
*О як бы малатарня працавала,*
*Калі б прывод правёў ад языка!*

## Мастаку

*Мадонаў напладзіўшы*
*распранутых,*
*Сабраў вакол*
*"святых" і вальтанутых.*

## Славутасці

*Залез на пастамент,*
*высока стаў.*
*Чаму ж рукі нікому не падаў?*

## Раздвоенаму

*Ён дэмакрат*
*і камуняка,*
*Ў адной асобе "кот-сабака".*
*Дзівуешся з такога: "Хто ты,*
*Незразумелая істота?"*


Ніл Гілевіч


Уладзімір Арлоў


Алесь Марачкін


Міхаіл Пташук


Анатоль Гармаза


Георгій Волчак

Павел САКОВІЧ

# Эпіграмы як рэкламы

## Андрэй Федарэнка

*Мяне ён называе дзядзькам,*
*А мне, скажыце, што з таго?*
*Дык называў бы лепей бацькам —*
*Хоць меў бы гонар за яго.*
*А потым чарку мо нальє.*
*Ці мой "сынок" яшчэ не п'е?*

## Алесь Марціновіч

*Быць крытыкам нікому не ахвота,*
*Бо гэткая няўдзячная работа!*
*Вунь колькі крытыкі*
*Алесь на ўсіх навёў,*
*А ці сказаў яму хто пару*
*цёплых слоў?*

## Васіль Быкаў

*Праводзім дружна год Быка*
*Без жалю мы вялікага,*
*Бо жыць нашчадкам у вяках*
*Пад знакам зоркі Быкава.*

## Генрых Даліловіч

*Не старэе Генрых штосьці —*
*Мо прычына ў "Маладосці"?*
*Ясна бачна, без пытання:*
*У яго ёсць "Жар кахання".*

## Алесь Пісьмянкоў

*Наш Алесь — Пісьмянкоў нездарма:*
*Піша добра, ды толькі нямнога.*
*Тут ляноты ніякай няма —*
*Муза з ім абыходзіцца строга.*

## Анатоль Клышка

*Я вам паклянуся гатоў,*
*Што Клышка — самы першы класік,*
*Бо вучаць дзеці шмат гадоў*
*Яго буквар у першым класе!*



ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА



АДРАС РЭДАКЦЫІ:
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

ТЭЛЕФОНЫ:
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985

АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, ахове помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667



**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 5853
Нумар падпісаны ў друк 30.12.1997 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 7718/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12